Ідзі ў родны край, там і пад елкаю рай

З любоўю да ўлоння

16 старонак

№3 (18)
Травень 1999

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік

Фота: Аляксандр Урбановіч



## З днём народзінаў, вольнае птаства!

*Калі птушкі сядалі на гнёзды, нават званы на царкоўных званіцах пераставалі званіць*



5 чэрвеня – Сусветны дзень аховы навакольнага асяроддзя

* вывадак крутагалоўкі абжывае навакольнае асяроддзе

Фота: Ігар Бышнёў



**Выдавецкі праект** Газета "Белавежская пушча" стаў пераможцам конкурсу Еўрапейскай прэміі Генры Форда.

Узнагарода ўручана аўтару праекта галоўнаму рэдактару Валерыю Дранчуку. Віншуем аўтараў, сяброў і падпісчыкаў, якія ахвярна спрычыніліся да выпуску і распаўсюджвання незалежнай беларускай газеты, з нагоды засведчанага прызнання нашых супольных прырода-ахоўных намаганняў, ст.3

## Яраслаў Пятроўскі ўжо не самотны:



ён мае газету "Белавежская пушча" і поўны рашучасці разам з газетай адстойваць прыродную спадчыну Беларусі

Кола ст.10

## Час падпіскі!

**індэкс 63267, 63317**

"Жанчына, моцна сціскаючы граблі рукамі, голасна-пранізліва закрычала. Зубрыца раптоўна спынілася, а жанчына закрычала яшчэ галасней..."

ст.13

## Дзень Зямлі 2000

**Ці адбудзецца гучная прырода-ахоўная акцыя на Беларусі 22 красавіка 2000 года?** ст.14

*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс",*
*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

*Для кантактаў:*
*220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38-16*
*Тэл. (0172) 36-50-76, факс 220-23-53*

## Аблёт аграландшафтаў

**Слова рэдактара**



Калі ў двары стаіць перадлетаўе, за весніцамі ў сад сакавее трава, пробуе голас салоўка і раскаціста патрэсквае ў небе гром, неахвота заводзіць размову пра рэчы, якія на лірыку мала падобныя. Але абмяжуемся лірычным пачаткам ды ўспамінам, які вяртае мяне прыкладна ў 70-я леты. Быў тады, як помню, вельмі папулярны сярод вышэйшага кіраўніцтва аблёт айчыннай тэрыторыі. Спусціўшыся на мяккія дываны "цэка", паветраныя аграрыі выказвалі глыбокую заклапочанасць праблемаю так званых "балалаек" на калгасных ворыўных землях. Ведаю, што ў гэтай гарачай кампаніі "за рацыянальнае выкарыстанне калгасных угоддзяў" згарэлі, нібы ў агні, сотні ліп і дубоў, гаёў-лагчынак, хутарскіх рэшткаў, цяністых прысадаў. Што зробіш, трэба было разам з беларускай каўбасой гнаць у Маскву й справаздачы аб выніках чарговай кампаніі.

Мабыць, не ўспамінаў бы гэтую прыкрасць, калі б не ўчарашняя размова з міністэрскім чыноўнікам, які багавейліва давёў мне, што хутка "наш прэзідэнт" з верталёта будзе зноў аглядаць, ці ў пашане беларуская зямля, ці не кінута-закінута нядбалымі гаспадарамі, ці не пустуе дзе ўрадлівая сотка. Са слоў суразмоўцы, можа, зусім нядрэннага чалавека, скразіла думка-надзея: вось дачакаемся в ы с о к а г а моманту і... пачнем працаваць у тым, самым ясным і правільным кірунку. Думаю: прыкра ўсё ж, калі чыноўніка зноў прывучаюць глядзець у рот "бацьку", а не чытаць Канстытуцыю, міжнародныя Канвенцыі, жыць паводле цывілізаваных нормаў, правілаў і стандартаў. Можна ўсміхнуцца на хваробныя праявы, але ж мусіш думаць пра чарговыя ўказы з борта, магчымыя і часам жудасныя наступствы, пра, так бы мовіць, біялагічную разнастайнасць стратаў. Часам нават добрыя намеры скончаліся сумнавядомай практыкай зводзіць, сячы, зачышчаць. Можа стацца, напрыклад, што звалкі застануцца, а хмызнячок каля вёскі, радасна апанаваны птушкамі, пойдзе пад знос.

"Всё не так, ребята", – поўны адчаю, спяваў Высоцкі. Напраўду, ці справа гэта прэзідэнта – займацца аблётамі аграландшафтаў? Рэч у тым, што ў грамадстве ёсць сілы, якія гэтую працу - адсочвання сумніўных дзялянак зямлі, вызначэння іх мэтазгоднасці й далейшага скарыстання - здольныя споўніць не горш за паветраную "кавалерыю" ад вышэйшай улады, а куды лепш. Іншая справа, што гэтыя сілы яшчэ трэба арганізаваць, даць ім "карт-бланш", прыахвоціць. Перш-наперш я маю на ўвазе грамадскія экалагічныя арганізацыі, школьніцтва, асобных энтузіястаў у раёнах, на месцах. Менавіта грамадскасць магла б сказаць сваё слова за лёс гэтак званых закінутых альбо стратных кавалкаў зямлі. Ведаю, на гэты конт мае змястоўную пазіцыю Беларуская экалагічная партыя зялёных, іншыя структуры грамадства. І ўвогуле, хто пытаўся ў шараговых людзей, – можа, у адказ мы пачулі б шмат слушных цікавых падказак і прапаноў.

Ёсць сур'ёзная падстава пра гэта казаць, бо падпісана вельмі важная міжнародная Канвенцыя, паводле якой рашэнні, што датычаць навакольнага асяроддзя, павінны прымацца з у д з е л а м г р а м а д с к а с ц і. Газета мае гонар друкаваць тэкст Канвенцыі ўпершыню так шырока дзеля плённага скарыстання ўсімі, хто знойдзе ў гэтым цікавасць і момант ісціны.

Валерый Д р а н ч у к

# Я правяду цябе на ўлонне бэзу скрозь арку трыумфальную галін...

*Анталогія ў перакладзе з грэцкае мовы значыць* ***букет кветак.*** *Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі*



*Малюнак: С.Чарановіч*

***Тадэвуш Ружэвіч****
*Польшча*

Я к   д о б р а

Як добра   Мажліва
збіраць у лесе суніцы
я ўжо думаў
ні лесу няма ні суніцаў

Як добра   Мажліва
ляжаць у цяньку пад дрэвам
я ўжо думаў што дрэвы
даўно без лісцяў і ценю

Як добра   Мы побач
І сэрца маё спявае
я ўжо думаў у чалавека
няма сэрца

***Анатоль Вярцінскі***

Н е к а л ь к і   с л о ў   п р а   л е с

Ішлі мы ў лес па прахалоду,
па кветкі, ягады, смалу.
Ішлі мы ў лес па асалоду.
І вось – сякерай па ствалу.
Лес нас любіў,
а мы не любім.
А мы яго сячом і губім.
Не хочам мы любві ўзаемнай.
Ён нам – свае дары.
А што яму далі ўзамен мы?
Што робім мы ў бары?
Да нас ён –
з мірам і пакорай,
А мы да яго –
з мячом.
А мы яго – пад корань,
пад корань,
пад самы корань сячом...

***Ролф Якабсан****
*Нарвегія*

П е й з а ж   з   э к с к а в а т а р а м і

Яны паядаюць мой лес.
Шэсць пачвараў прыйшлі і пажэрлі
мой лес.
Божачкі, што за стварэнні!
Галава без вачэй, а на азадку вочы.

Лязгочучы сківіцай на даўгавязай шыі,
З куточка рота тырчыць багатка.

Жуюць і плюють, плюють і жуюць,
у іх няма горла, затое зубастая пашча.
І чэрава тарахціць.
Мусіць, гэта ўжо пекла?

Для кулічкоў і чаротавак?
Для разумных маіх жураваў?

На нагах у іх ланцугі й нежывыя вочы.
І працы ў іх на стагоддзі – жаваць
рамонкі.
Хаваць пад асфальт, пакрываць
смуродам
кволую завязь жыцця
пад халоднымі сонцамі фараў.

Ані горла, ані голасу, ані скаргі.

* Пераклад на беларускую: Валеры Дранчук

***Алесь Разанаў***

П а с т к і

Каб не баяцца хадзіць у лес,
панастаўлялі аднавяскоўцы ў лесе
ўсялякіх пастак: на ліса, на рысь,
на ваўка, на дзіка, на мядзведзя...

Пайшоў Сымон паглядзець, што
трапіла ў яго самаловы, —
трапіў у нейчы сам,
пайшоў Тарас паглядзець, што трапіла
ў яго петлі, — заблытаўся сам у
нейчай,
пайшоў Дамінік паглядзець, што
трапіла ў яго ямы, —
нібы скрозь зямлю праваліўся,
кудысьці прапаў...

І пачалі яшчэ горай людзі баяцца лесу:
там водзяцца рысі,
там водзяцца лісы,
мядзведзі,
ваўкі
і – пасткі.

***Мар'ян Дукса***

***

Мне болей любіцца з гадамі,
Мне болей марыцца цяпер
Над тымі, даўнімі слядамі,
Дзе браў я радасць напавер.

Па жалудах і сыраежках
Мільгалі ногі-галышы...
А зараз пройдзеныя сцежкі
Салодка ныюць у душы.

Ляцелі аж да небакраю
Загоны буйнай збажыны...
І толькі зараз адчуваю,
Наколькі родныя яны.

***Галіна Каржанеўская***

***

З воблакам белым
гляджуся ў азёры,
З хвалямі разам плыву ў чараты.
А нада мною рассыпаны зоры –
Мудрае вечнасці
пыл залаты.

Ноччу глухой, як усходзіцца вецер,
Разам з кляновым лістом трапячу.
З качкаю дзікай ляцела па свеце
І з павуцінкай у свет палячу.

Усё, што схавана,
адкрыецца зроку,
Самыя цьмяныя між таямніц
Я разгадаю.
Прад сэнсам высокім
Дух мой уражаны кінецца ніц.

***Леанід Дранько-Майсюк***

***

Дай Божа,
Каб мой сын быў здаровы.
Дай Божа,
Каб мая маці была здаровая.
Дай Божа,
Каб мой бацька быў здаровы.
Дай Божа, каб мая жонка была
здаровая.
Дай Божа,
Каб здаровай была зямля.
Амін.

***Ояр Вацыеціс****
*Латвія*

Б э з а в ы   т р а в е н ь

Хадзем, я правяду цябе
на ўлонне бэзу
скрозь арку трыумфальную галін.
Я не збіраюся ламаць букет –
найлепш глядзіцца
букетніца духмянага куста.

Скрозь бэзавы туман
працэдзім пунш вячорка –
ні з чым не параўнаць
разліты водар гронак.

Хадзем, прыпадзем
да напою траўня,
пакуль ён не дастане нас да сэрца
і не падыйдзе да грудзей бялюткіх –
і, захмялелыя, умыемся залевай,
што спорна спее
ў воблаку чароўным.

Цудоўны міг
душэўнага ўзрушэння.
І прага жыць, а паміраць –
не трэба.



***Максім Багдановіч***
(1891-1917)

* * *

Ціхі вечар; знікнула спякота,
Вясялей струіцца між чарота
Рэчка, што ўцякае у ставок;
Ўкруг яго ідзе вярбін вянок
Йшчэ зялёных, свежых, хоць каравых;
Плесня каля берагоў іржавых
Саматканым поясам ідзе,
І лілеі расцвілі ў вадзе.
Часам з візгам ластаўка малая
Пранясецца нізка і чыркае
Крылечкам з разгону гладзь стаўка,
Налякаўшы гэтым матылька.
Часам лінь ці окунь усплюснуцца,
І кругі шырока разыйдуцца.
Часам выпаўзаюць паляжаць
Тут вужакі шэрыя на гаць,
У канцы каторай млын схіліўся;
Спарахнеў ён, ледзь не разваліўся,
Пачарнела кола, і даўно
Мохам цёмным абрасло яно.
(...)

***Максім Танк***

Д о ж д ж   к а н ц а   X X   с т а г о д д з я

"Дожджык, дожджык, секані!
Мы паедзем на кані.."

Гэта – не пра сённяшні дождж..
А таго, гарэзу, заві – не дазавешся.

Цяпер, калі набліжаецца хмара,
Хутчэй склікаем дзяцей дамоў,
Хутчэй заганяем каня ў хлеў
І самі хаваемся пад страху,
Пад якой
Каторы ўжо год
Маўчаць камарыныя скрыпкі,
Чмяліныя басэтлі,
Літаўры хрушчоў
І сумуюць гнёзды ластавак.

***Яўген Гучок***

М і н і я ц ю р ы

***

Сёння па твары зямным
Рэкі, бы горкія слёзы,
Цякуць.

***

Бы з дзьмухаўцом,
Гуляе чалавек
З прыродай.

***Валерый Дранчук***

П р ы   с л о в е   "п е й з а ж"

Пры слове **пейзаж**
я ўздрыгваю
быццам ад болю

сілячыся падняцца

гэта мяне
абакралі

гэта ў мяне
вылузалі кішэні

гэта мяне
пакінулі ляжаць
на асфальце


SUMMARY

*Spring-summer motifs abound in this issue's poetry selection, interspersed with lyrical interpretations of environmental threats.*

# УЗНАГАРОДА AWARD

# Выдавецкі праект "Газета "Белавежская пушча" стаў лаўрэатам конкурсу Еўрапейскай прэміі Генры Форда

*Уладзя Ляская*

Месцам ганаравання новага фордаўскага лаўрэата гэты раз быў абраны адзін з ціхіх і утульных куткоў Беларусі — Бярэзінскі біясферны запаведнік. Ніл Кэмпбел, генеральны дырэктар аўтамабільнага завода "Форд юніон", перш чым абвясціць імя, якое да гэтага трымалася ў поўным сакрэце і якога чакалі прысутныя журналісты, пачаў з грунтоўнага лірычнага адступлення.

Ён прыгадаў птаха свайго дзяцінства – "з доўгай дзюбаю і жыве ў балоце, якому адданы". Няцяжка было здагадацца, што гэта кулічок – бадай, легендарная птушка і ў нашых беларускіх абшарах. І хоць кулічок трымаецца мокрай купіны свайго найлепшага ў свеце балота, гэта вельмі пасавала тэме міграцыі экалагічных каштоўнасцяў, на якой засяродзіў увагу Кэмпбел. "Мне вельмі не хацелася б, каб мой кулічок паляцеў у вырай і загінуў дзесьці ў шыротах сібірскай тайгі, а беларускі — склаў крылы ў маёй Новай Зеландыі, і таксама не вярнуўся ў свой родны кут".

Чалавецтва павінна разумець сваю адказнасць перад прыродай і знаходзіць магчымасць спрыяць развіццю і пашырэнню праектаў, звязаных з захаваннем навакольнага асяроддзя, падкрэсліў Ніл Кэмпбел.

*Наша даведка.* 46-гадовы Кэмпбел на Беларусі з 1996 года. Нарадзіўся ў Новай Зеландыі. Па адукацыі псіхолаг. Мае сына і трох дачок. У нашай краіне яго вабяць азёрныя краявіды. У вольны час выбіраецца ў падарожжы, а па нядзелях з сябрамі хаваецца ў беларускіх лясах, дзе робіць рэгулярныя кросавыя прабежкі.

У кароткім эксклюзіўным інтэрв'ю нашай газеце Ніл заўважыў, што беларуская прырода надзіва паэтычная, ён бачыў шмат дзівосных дзікіх куткоў і таму з жалем пасведчыў, што часта пасля пікнікоў людзі пакідаюць за сабой "сляды неахайнасці".

"Нешта падобнае было і ў нас, — прызнаўся Ніл Кэмпбел — калі выезды жыхароў за горад набылі масавы характар, але гэтая хваля хутка сышла дзякуючы супрацьстаянню сапраўдных аматараў прыроды, асабліва ў сродках масавай інфармацыі.

І цяпер пра выпадкі непаважлівага абыходжання з прыродай на пікніках можна хіба што ўспамінаць, зазначыў спадар Кэмпбел. Ён не сумняваецца, што свядомасць беларусаў дастаткова высокая, каб справіцца з гэтай праблемай. Аднак, сказаў ён, без прэсы і актыўнасці простых людзей будзе цяжка штонебудзь зрушыць, бо праблема прагрэсіруе, у тым ліку дзякуючы аўтамабільнаму асваенню прыродных куткоў, даступнасці дзікіх мясцін.

У звязку з тым прыродалюбны кірунак газеты "Белавежская пушча" мне даспадобы, сказаў далей Кэмпбел. Гэта выдатны сродак выхавання свядомасці людзей, яднання іх намаганняў. Лічу, кампетэнтнае журы не памылілася, калі ў якасці пераможцы прызнала выдавецкі праект Валерыя Дранчука.

*Наша даведка.* На сённяшні дзень у Беларусі тры лаўрэаты Прэміі Форда. У 1997 быў адзначаны ўклад навуковага супрацоўніка Акадэміі навук Пятра Козлы ў праграму захавання папуляцыі белавежскага зубра. Праз год лаўрэатам стала выдатны знаўца беларускай флоры Ірына Віяленцій, якая працягвае справу свайго мужа — даглядае і прымнажае рэдкі ў Еўропе лекавы сад з плантацыяй жэньшэню.

Спадар Кэмпбел уручыў лаўрэату 1999 года Нацыянальную ўзнагароду — сокала з белае парцаляны аўстрыйскіх майстроў — і абвясціў грашовы прыз. Праект-пераможца рэкамендаваны экспертамі для ўдзелу ў конкурсе Еўрапейскага Гран-пры. Лепшыя праграмы – адна з кожнай краіны – будуць неўзабаве разгледжаны на пасяджанні Міжнароднага журы. На свой форум для падсумоўвання вынікаў удзельнікі збяруцца 14 чэрвеня ў горадзе Аахен (Нямеччына).



** парцалянавы сакол -- Нацыянальная прэмія Генры Форда*

З кароткім словам да прадстаўнікоў "Форда", прысутных і журналістаў звярнуўся Валерый Дранчук. Ён падзякаваў каардынацыю конкурсу за высокую адзнаку праекта праекта і падкрэсліў выключную ролю спаборнасці сярод праграм, якія датычаць навакольнага асяроддзя. У Беларусі, на жаль, цалкам адсутнічае механізм адсочвання й стымулявання ўсяго лепшага, што магло б спрыяць развіццю зялёнай ідэі, хоць на гэта ў дзяржавы ёсць адмысловыя сродкі і ўсе магчымасці. Ніводная просьба рэдакцыі аб фінансавай дапамозе, з якой ён звяртаўся ў дзяржаўныя ведамствы, не была задаволеная. На выдавецкі праект дзяржава не адпусціла пакуль што ніводнай капейкі. Некаторыя структуры (як, прыкладам, Гомельскі і Магілёўскі абласныя камітэты прыродаахоўы, а сёлета і Мінскі гарадскі), палічылі за лепшае цалкам дыстанцыявацца ад выдання.

Тым больш прыемна, зазначыў В. Дранчук, гаварыць пра шматлікія добрыя прыклады прыватнага і грамадскага стаўлення да газеты, разумення і зацікаўлення з боку міжнародных арганізацый, іх прадстаўніцтваў у Мінску, а таксама на мясцовым узроўні, перш-наперш раённых аддзелаў адукацыі, інспекцый прыродаахоўы, Гродзенскага і Брэсцкага абласных камітэтаў прыродных рэсурсаў, школьнага настаўніцтва, бібліятэчных работнікаў.

Газета знаходзіць магчымыя кантакты з прыватным бізнесам, развіваючы такім чынам традыцыю экафундатарства ў Беларусі. Сюжэты сацыяльна-экалагічнай рэкламы падтрымліваюць фірмы і прадпрыемствы. Хай сабе ахвотных яшчэ вельмі мала і падтрымка хутчэй сімвалічная, аднак гэты зялёны парастак прабіўся і ўжо нямарны.

Henry Ford European Conservation Awards

**Еўрапейскія прэміі Генры Форда за захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя**

***дапамагаючы захаваць экалагічныя і культурныя каштоўнасці мы паляпшаем узровень жыцця***

*"Еўрапейскія прэміі Генры Форда за захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя" – адмысловая праграма, заснаваная ў 1984 годзе. Мэта яе – надаць увагі ахове культурных і біясферных каштоўнасцяў. Сёлета праграма запрапанавала грашовыя прызы (агульнай сумай 500 тыс. доляраў ЗША) за выдатныя праекты ў 34 краінах Еўропы – ад Партугаліі да Беларусі. Фонд ачольвае Вільям Клэй Форд-малодшы, праўнук Генры Форда, заснавальніка кампаніі.*

*"Еўрапейскія прэміі Генры Форда за захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя" – адна з буйнейшых праграм у Еўропе. Створаная дзеля таго, каб знаходзіць і заахвочваць наватарскія ініцыятывы ў галіне захавання экалагічных і культурных каштоўнасцяў. Мэты гэтай праграмы: даць магчымасць праектам, якія ўжо ажыццяўляюцца, укараніцца дасягнутым, а таксама падтрымаць годныя пачынанні, якія знаходзяцца на пачатковых стадыях распрацоўкі. Праграма, ад пачатку створаная фондам "Захаванне" ў Вялікабрытаніі, дзейнічае цяпер супольна разам з "Цэнтрам сусветнай спадчыны UNESKO" і "Радай Еўропы". Фонд "Еўрапейскія прэміі Генры Форда за захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя" імкнецца знайсці і падтрымаць наватарскія ідэі гарманічнага суіснавання прыроды й індустрыі.*

*Праекты, прадстаўленыя сёлета ў Беларусі, зрабілі каштоўны ўнёсак на карысць развіцця свядомасці і клапатлівага дбання людзей пра важнасць экалагічнай і культурнай спадчыны. Пракладзена сцяжынка да лепшае будучыні наступных пакаленняў.*

*Клопат пра культурную спадчыну і навакольнае асяроддзе ёсць абавязкам, на які кожны павінен пакласці долю сваіх намаганняў. Праграма "Еўрапейскія прэміі Генры Форда за захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя" дае ўсведаміць нашы абавязкі ў дачыненні да экалогіі і культуры як асноўных каштоўнасцяў.*

SUMMARY

***T**he Belavezhskaya Pushcha publishing project* ***has been named Best Belarusian Entry at the European Henry Ford Prize for preserving cultural heritage and the environment. Neil Campbell, manager of the Minsk Ford Union plant, presented a national award and cash prize to the project's originator, Valeriy Dranchuk.***

# КАНВЕНЦЫЯ CONVENTION

Нумар газеты прысвечаны Канвенцыі ААН аб доступе грамадскасці да экалагічнай інфармацыі і выдадзены пры фінансавай падтрымцы **Прадстаўніцтва ААН у Беларусі**

## *Аб доступе да інфармацыі і ўдзелу грамадскасці ў ходзе прыняцця рашэнняў, а таксама аб доступе да правасуддзя па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя*

**Г**азета робіць чарговую спробу разгарнуць перад чытачамі адзін з самых важных дакументаў экалагічнага права, які Беларусь падпісала прыканцы мінулага года, — **Канвенцыю ААН аб доступе да экалагічнай інфармацыі** (скарочаны варыянт назвы). Гэтую Канвенцыю, калі яшчэ яна рыхтавалася, назвалі таксама **Орхускай**, ад назвы дацкага горада Орхуса, у якім збіраліся міністры, каб у рэшце рэшт зрабіць дакумент сведчаннем волі сваіх краін у адстойванні грамадзянамі правоў на здаровае навакольнае асяроддзе.

Патэнцыйная значнасць і сіла артыкульных палажэнняў дакумента відавочная, часам нават уражвае. Аднак несумненна і тое, што зрэалізаваць гэты патэнцыял можна толькі ва ўмовах дэмакратычнай дзяржавы. Зрэшты, і сама Канвенцыя як бы стымулюе сілы грамадскасці, праўда, гэта магчыма ў тым выпадку, калі дакумент будзе шырока прапагандавацца Бокам, які яго падпісаў. Не сакрэт, сённяшнім уладам ніяк не з рукі прапагандаваць і распаўсюджваць ідэю Канвенцыі, бо сучасныя прынцыпы дзяржаўнага кіравання ў Беларусі далёкія ад дэмакратычных і ўвогуле цывілізаваных. Толькі адзін прыклад. Нядаўна ўступіў у сілу Указ прэзідэнта аб мытных зборах за аўтапраезд на падахоўных тэрыторыях. З кім улада раілася, калі прымала такое рашэнне? Грамадскасць, пра якую гэдзе гаворка ў Канвенцыі, у дадзеным выпадку адкінута "ценявікамі" адміністрацыі далёка ўбок.

Несумненна, Канвенцыя будзе запатрабаваная там, дзе ёсць воля грамадскасці і сапраўды наступальны, а не ўяўны зялёны рух. У іншым выпадку патэнцыял Канвенцыі застанецца нескарыстаным.

Ініцыятыву па абнародванні і шырокім абмеркаванні палажэнняў Канвенцыі ўзяла на сябе наша незалежная газета, каб зрабіць міжнароднае экалагічнае права даступным сродкам у руках найбольш актыўнай часткі людзей. **Фінансаваную падтрымку ў гэтым рэдакцыі аказала Прадстаўніцтва ААН у Мінску.**

Бакі гэтай Канвенцыі,

*спасылаючыся* на прынцып 1 Стакгольмскае дэкларацыі па праблемах асяроддзя вакол чалавека,

*спасылаючыся* таксама на прынцып 10 Рыа-дэ-Жанейрскай дэкларацыі па навакольным асяроддзі і развіцці,

*спасылаючыся далей* на рэзалюцыі Генеральнай Асамблеі 37/7 ад 28 кастрычніка 1982 года аб Сусветнай хартыі прыроды і 45/94 ад 14 снежня 1990 года Аб неабходнасці забеспячэння здаровага навакольнага асяроддзя дзеля дабрабыту людзей,

*спасылаючыся* на Еўрапейскую хартыю па навакольным асяроддзі і ахове здароўя, прынятую на першай Еўрапейскай канферэнцыі "Навакольнае асяроддзе і здароўе" Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ў Франкфурце-на-Майне", Германія, 8 снежня 1989 года,

*пацвярджаючы* неабходнасць абараняць і перахоўваць навакольнае асяроддзе, паляпшаць яго стан і забяспечваць устойлівае і экалагічна бяспечнае развіццё,

*прызнаючы*, што адэкватная ахова навакольнага асяроддзя неабходная для забеспячэння дабрабыту чалавека і ажыццяўлення асноўных правоў чалавека, разам з самім правам на жыццё,

*прызнаючы* таксама, што кожны мае права жыць у навакольным асяроддзі, спрыяльным для ягонага здароўя і дабрабыту, і абавязаны як індывідуальна, так і сумесна з іншымі ахоўваць і паляпшаць навакольнае асяроддзе на карысць сённяшняга і будучых пакаленняў,

*уважаючы на тое*, што з мэтай забеспячэння магчымасці адстойваць гэтае права і выконваць гэты абавязак грамадзяне павінны мець доступ да інфармацыі, права ўдзельнічаць у працэсе прыняцця рашэнняў і доступ да правасуддзя па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя, і прызнаючы ў звязку з гэтым, што грамадзянам можа пільна спатрэбіцца дапамога для спаўнення сваіх правоў,

*прызнаючы*, што ў пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя, удасканаленне доступу да інфармацыі і ўдзелу грамадскасці ў працэсе прыняцця рашэнняў павышае якасць прымаемых рашэнняў і працэса іх ажыццяўлення, спрыяе паляпшэнню інфармаванасці грамадскасці аб экалагічных праблемах, дае магчымасць грамадскасці выказваць сваю заклапочанасць і дазваляе дзяржаўным органам забяспечваць належны ўлік такіх інтарэсаў,

*імкнучыся*, такім чынам, спрыяць справаздачнасці і адкрытасці хода прыняцця рашэнняў і ўзмацненню падтрымкі грамадскасцю рашэнняў у галіне навакольнага асяроддзя,

*прызнаючы* пажаданасць адкрытасці ва ўсіх галінах дзяржаўнага кіравання і прапануючы заканадаўчым органам ажыццяўляць прынцыпы гэтай Канвенцыі ў сваёй працы,

*прызнаючы* таксама, што грамадскасць павінна быць абазнаная аб працэдурах удзелу ў працэсе прыняцця рашэнняў па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя, мець свабодны доступ да іх і ведаць, якім чынам імі карыстацца,

*прызнаючы далей* важнае значэнне адпаведных роляў, якія могуць іграць у ахове навакольнага асяроддзя асобныя грамадзяне, няўрадавыя арганізацыі і прыватны сектар,

*уважаючы за пажаданае* спрыяць экалагічнай асвеце з мэтай паглыблення разумення працэсаў, звязаных з навакольным асяроддзем і ўстойлівым развіццём, і заахвочваць шырокую інфармаванасць грамадскасці аб рашэннях, якія ўздзейнічаюць на навакольнае асяроддзе і ўстойлівае развіццё і яе ўдзел у працэсе прыняцця такіх рашэнняў,

*адзначаючы* ў звязку з гэтым важную ролю выкарыстання сродкаў масавай інфармацыі і электронных або іншых сродкаў сувязі, якія з'явяцца ў будучыні,

*прызнаючы* важнае значэнне поўнага ўліку экалагічных меркаванняў падчас прыняцця рашэнняў на ўрадавым узроўні і вынікаючую з гэтага неабходнасць таго, каб дзяржаўныя органы мелі дакладную, шматбаковую і самую новую экалагічную інфармацыю,

*прызнаючы*, што дзяржаўныя органы валодаюць экалагічнай інфармацыяй у інтарэсах грамадскасці,

*уважаючы* на тое, што эфектыўныя судовыя механізмы павінны быць даступныя для грамадскасці, улучаючы арганізацыі, з мэтай забеспячэння абароны яе законных інтарэсаў і прымянення законаў,

*адзначаючы* важнасць прадстаўлення спажыўцам належнай інфармацыі аб прадуктах, з тым каб забяспечыць ім магчымасць рабіць





абгрунтаваны выбар з улікам інтарэсаў аховы навакольнага асяроддзя,

*прызнаючы* занепакоенасць грамадскасці ў звязку з загадзя планаваным выхадам генетычна зменeных арганізмаў у навакольнае асяроддзе і неабходнасць павышэння адкрытасці і большага ўдзелу грамадскасці ў працэсе прыняцця рашэнняў у гэтай сферы,

*маючы перакананне ў тым*, што ажыццяўленне гэтай Канвенцыі будзе спрыяць умацаванню дэмакратыі ў рэгіёне Еўрапейскай экалагічнай камісіі (ЕЭК) Арганізацыі Аб'яднаных Нацый,

*прызнаючы* тую ролю, якую ў гэтым звязку спаўняе ЕЭК і спасылаючыся, у прыватнасці, на Кіруючыя прынцыпы ЕЭК па забеспячэнні доступу да экалагічнай інфармацыі і ўдзелу грамадскасці ў працэсе прыняцця рашэнняў у галіне аховы навакольнага асяроддзя, адобраныя ў Дэкларацыі міністраў, прынятай на трэцяй Канферэнцыі міністраў "Навакольнае асяроддзе для Еўропы" 25 кастрычніка 1995 г. ў Сафіі, Балгарыя,

*прымаючы да ўвагі* адпаведныя палажэнні Канвенцыі аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе ў трансгранічным кантэксце, прынятай у Эспа, Фінляндыя, 25 лютага 1991 г., Канвенцыі аб трансгранічным уздзеянні прамысловых аварый і Канвенцыі па ахове і выкарыстанні трансгранічных вадатокаў і міжнародных азёраў, прынятых у Хельсінкі 17 сакавіка 1992 г., а таксама іншых рэгіянальных канвенцый,

*усведамляючы*, што прыняцце гэтай Канвенцыі будзе садзейнічаць далейшаму ўмацаванню працэса "Навакольнае асяроддзе для Еўропы" і развіццю вынікаў чацвёртай Канферэнцыі міністраў у Орхусе, Данія, у чэрвені 1998 года,

*дамовіліся* аб ніжэйпададзеным:

Артыкул 1

## Мэта

Для садзейнічання абароне права кожнага чалавека сённяшняга і будучых пакаленняў жыць у навакольным асяроддзі, спрыяльным для яго здароўя і дабрабыту, кожны Бок гарантуе права на доступ да інфармацыі, на ўдзел грамадскасці ў працэсе прыняцця рашэнняў і на доступ да правасуддзя па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя, у адпаведнасці з палажэннямі гэтай Канвенцыі.

Артыкул 2

## Вызначэнні

(...)

2. *"Дзяржаўны орган"* азначае:

a) адміністрацыю на нацыянальным, рэгіянальным і іншым узроўні;

b) фізічных або юрыдычных асобаў, якія выконваюць дзяржаўныя адміністратыўныя функцыі адпаведна з нацыянальным заканадаўствам, разам з тым і канкрэтныя абавязкі, дзейнасць або паслугі, якія маюць дачыненне да навакольнага асяроддзя;

c) любых іншых фізічных ці юрыдычных асобаў, якія спаўняюць дзяржаўныя абавязкі ці функцыі або аказваюць паслугі насельніцтву і маюць дачыненне да навакольнага асяроддзя, пад кантролем органа ці асобы, што указаны ў падпунктах a) альбо b) вышэй;

d) установы любой рэгіянальнай арганізацыі эканамічнай інтэграцыі, што указваецца ў арт.17, якая з'яўляецца Бокам дадзенай Канвенцыі.

Гэтае вызначэнне не ўключае органы ці ўстановы, якія дзейнічаюць у судовай ці заканадаўчай якасці;

3. *"Экалагічная інфармацыя"* азначае любую інфармацыю ў пісьмовай, аўдыявізуальнай, электроннай альбо іншай матэрыяльнай форме пра:

a) стан элементаў навакольнага асяроддзя, такіх як паветра і атмасфера, вада, глеба, зямля, ландшафт і прыродныя аб'екты, біялагічная разнастайнасць і яе кампаненты, улучаючы генетычна зменeныя арганізмы і ўзаемадзеянне паміж гэтымі элементамі;

b) фактары, такія як рэчывы, энергія, шум і выпраменьванне, а таксама дзейнасць або захады, улучаючы адміністратыўныя захады, пагадненні ў сферы навакольнага асяроддзя, палітыку, заканадаўства, планы і праграмы, якія робяць альбо здольныя рабіць уздзеянне на элементы навакольнага асяроддзя, пазначаныя ў падпункце a) вышэй, аналіз выдаткаў і вынікаў, іншы эканамічны аналіз і дапушчэнні, што выкарыстаныя падчас прыняцця рашэнняў па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя;

c) стан здароўя і бяспекі людзей, умовы жыцця людзей, стан аб'ектаў культуры, гмахаў і збудаванняў у той ступені, у якой на іх уздзейнічае ці можа ўздзейнічаць стан элементаў навакольнага асяроддзя або, праз гэтыя элементы, фактары, дзейнасць або захады, што акрэсленыя ў падпункце b) вышэй;

4. *"Грамадскасць"* азначае адну ці больш як адну фізічную ці юрыдычную асобу ў адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам або практыкай іх аб'яднання;

5. *"Зацікаўленая грамадскасць"* азначае грамадскасць, якая закранаецца ці можа закранацца працэсам прыняцця рашэнняў па пытаннях, што датычаць навакольнага асяроддзя, або якая мае зацікаўленасць у гэтым працэсе; дзеля мэтаў дадзенага вызначэння няўрадавыя арганізацыі, што спрыяюць ахове навакольнага асяроддзя і адказваюць любым патрабаванням нацыянальнага заканадаўства, ёсць арганізацыямі, якія маюць зацікаўленасць.

Артыкул 3

## Агульныя палажэнні

1. Кожны Бок прымае неабходныя заканадаўчыя, рэгламентуючыя ды іншыя захады, разам з тым і захады па дасягненні сумяшчальнасці палажэнняў, якія рэгламентуюць парадак ажыццяўлення палажэнняў гэтай Канвенцыі, што датычаць інфармацыі, удзелу грамадскасці і доступу да правасуддзя, а таксама належныя захады па забеспячэнні іх прымянення, для стварэння і падтрымання выразнай, адкрытай і ўзгодненай структуры для ажыццяўлення палажэнняў гэтай Канвенцыі.

2. Кожны Бок імкнецца зрабіць неабходнае, каб службовыя асобы і дзяржаўныя органы аказвалі грамадскасці дапамогу і давалі ёй арыентацыю, якім чынам займець доступ да інфармацыі ды як найлягчэй прыступіцца да ўдзелу ў працэсе прыняцця рашэнняў і атрымаць доступ да правасуддзя па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя.

3. Кожны Бок спрыяе экалагічнай асвеце і павышэнню ўзроўню інфармаванасці грамадскасці аб праблемах навакольнага асяроддзя, асабліва што датычыць доступу да інфармацыі, удзелу ў працэсе прыняцця рашэнняў і атрымання доступу да правасуддзя па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя.

4. Кожны Бок забяспечвае належнае прызнанне аб'яднанняў, арганізацый ці груп, якія спрыяюць ахове навакольнага асяроддзя, і аказвае ім адпаведную падтрымку і забеспечвае адпаведнасць сваёй нацыянальнай прававой сістэмы гэтаму абавязацельству.

(...)

7. Кожны Бок спрыяе прымяненню прынцыпаў гэтай Канвенцыі ў Міжнародных працэсах прыняцця рашэнняў па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя, і ў рамках міжнародных арганізацый у пытаннях, што маюць дачыненне да навакольнага асяроддзя.

8. Кожны Бок забяспечвае, каб асобы, якія ажыццяўляюць свае правы ў адпаведнасці з палажэннямі гэтай Канвенцыі, не падпадалі за сваю дзейнасць пад пакаранне, пераслед або ўціск у любой форме.

Артыкул 4

## Доступ да экалагічнай інфармацыі

1. Кожны Бок забеспечвае, каб, пры ўмове захавання наступных пунктаў гэтага артыкула, дзяржаўныя органы ў адказ на просьбу даць экалагічную інфармацыю давалі грамадскасці, у рамках нацыянальнага заканадаўства, такую інфармацыю, улучаючы, калі на тое ёсць запыт і ў адпаведнасці з падпунктам b) ніжэй, копіі фактычнай дакументацыі, якая змяшчае або ўлучае такую інфармацыю:

a) без неабходнасці фармуляваць сваю зацікаўленасць;

b) у замоўленай форме, калі толькі:

i) дзяржаўны орган не мае падставаў даваць яе ў інакшай форме, пры гэтым на той вы-падак мусяць быць названыя прычыны, якія апраўдваюць выдачу інфармацыі ў гэткай, а не інакшай форме; або

ii) інфармацыя не была ўжо дадзена грамадскасці ў іншай форме.

2. Экалагічная інфармацыя, пра якую гаворыцца ў пункце 1 вышэй, даецца ў максімальна сціслыя тэрміны, але не пазней аднаго месяца пасля падачы просьбы, калі толькі аб'ём і складанасць адпаведнай інфармацыі не апраўдваюць падаўжэння гэтага перыяду да двух месяцаў пасля падачы просьбы. Той, хто падаў просьбу, інфармуецца пра любое падаўжэнне гэтага перыяду і прычыны, якія апраўдваюць такое рашэнне.

3. У просьбе даць экалагічную інфармацыю можа быць адмоўлена, калі:

a) дзяржаўны орган, у які пададзена просьба, не мае той экалагічнай інфармацыі, якая замаўляецца;

b) просьба відавочна неабгрунтаваная альбо сфармуляваная ў залішне агульным выглядзе; або

c) просьба датычыць матэрыялаў, якія знаходзяцца на заключным этапе іх падрыхтоўкі, або унутранай перапіскі дзяржаўных органаў, калі такое выключэнне прадугледжваецца нацыянальным заканадаўствам ці ўстойлівай практыкай, пры гэтым улічваецца зацікаўленасць грамадскасці ў атрыманні такой інфармацыі.

4. Просьба даць экалагічную інфармацыю можа быць адхіленая, калі разглашэнне такой інфармацыі адмоўна паўплывае на:

a) канфідэнцыйнасць працы дзяржаўных органаў у тых выпадках, калі гэтая канфідэнцыйнасць прадугледжваецца нацыянальным заканадаўствам;

b) міжнародныя адносіны, нацыянальную абарону або дзяржаўную бяспеку;

c) правядзенне правасуддзя, магчымасць для асобаў падпадаць пад справядлівае судовае разбіральніцтва або здольнасць дзяржаўных органаў праводзіць расследванне крымінальнага ці дысцыплінарнага кшталту;

d) канфідэнцыйнасць камерцыйнай і прамысловай інфармацыі ў тых выпадках, калі такая канфідэнцыйнасць ахоўваецца законам з мэтай абароны законных эканамічных інтарэсаў. У гэтых рамках інфармацыя пра выкіды, калі гэта датычыць навакольнага асяроддзя, падлягае раскрыццю;

e) права інтэлектуальнай уласнасці;

f) канфідэнцыйнасць асабістых звестак і/або архіваў, якія датычаць фізічнай асобы, калі адпаведная асоба не згадзілася даць такую інфармацыю грамадскасці ў адпаведнасці з палажэннямі нацыянальнага заканадаўства;

g) інтарэсы трэцяга боку, што даў замоўленую інфармацыю, калі гэты бок не звязаны прававым абавязацельствам рабіць менавіта так, або калі на гэты бок не можа быць ускладзена такое абавязацельства, і ў тых выпадках, калі гэты бок не дае згоды на разглашэнне адпаведнага матэрыялу; альбо

h) навакольнае асяроддзе, да якога адносіцца гэтая інфармацыя, напрыклад, месцы размнажэння рэдкіх відаў.

Вышэйпамянутыя падставы для адмовы тлумачацца абмежавальна з улікам зацікаўленасці грамадскасці ў раскрыцці гэтай інфармацыі і з улікам таго, ці адносіцца замоўленая інфармацыя да выкідаў у навакольнае асяроддзе.

5. У тых выпадках, калі дзяржаўны орган не валодае экалагічнай інфармацыяй, якая замаўляецца, гэты дзяржаўны орган у максімальна сціслыя тэрміны інфармуе аўтара просьбы пра дзяржаўны орган, у які, на яго думку, можна звярнуцца з просьбай даць інфармацыю, або перадае гэтую просьбу такому органу і адпаведным чынам інфармуе пра гэта аўтара просьбы.

6. Кожны Бок забяспечвае, каб у тых выпадках, калі інфармацыя, якая не падлягае раскрыццю ў адпаведнасці з пунктам 3 c) і 4 вышэй, можа быць адасоблена ад астатняй інфармацыі без урону для канфідэнцыйнасці інфармацыі, не падлеглай раскрыццю, дзяржаўныя органы давалі астатнюю частку запрошанай экалагічнай інфармацыі.

7. Калі просьба даць інфармацыю была накіравана ў пісьмовым выглядзе або калі падаўца просьбы просіць аб гэтым, то адказ таксама даецца ў пісьмовым выглядзе. У выпадку адмовы называюцца прычыны і даецца адпаведная інфармацыя аб доступе да працэдуры разгляду прынятага рашэння ў адпаведнасці з артыкулам 9. Адмова ў просьбе даць інфармацыю даецца ў максімальна сціслыя тэрміны.

Артыкул 5

## Збор і распаўсюджванне экалагічнай інфармацыі

1. Кожны Бок забяспечвае, каб:

a) дзяржаўныя органы валодалі экалагічнай інфармацыяй, якая датычыць іх функцый, і абнаўлялі яе;

b) былі створаны абавязковыя сістэмы для забеспячэння належнага паступлення ў дзяржаўныя органы інфармацыі аб дзейнасці, якая плануецца або ажыццяўляецца і можа аказваць значны ўплыў на навакольнае асяроддзе;

c) у выпадку набліжэння любой пагрозы, якая можа пашкодзіць здароўю чалавека або навакольнаму асяроддзю і якая можа здарыцца ў выніку дзейнасці чалавека альбо з прычыны прыроднага характару, уся інфармацыя, здольная дазволіць грамадскасці прыняць захады для прадухілення ці змякчэння наступстваў урону ў выпадку такой пагрозы, і якой валодае дзяржаўны орган, распаўсюджвалася без прамаруджвання і затрымкі сярод членаў грамадства, якіх патэнцыйна закранае пагроза.

2. Кожны Бок забяспечвае, каб у рамках нацыянальнага заканадаўства працэдуры выдачы экалагічнай інфармацыі дзяржаўнымі органамі грамадскасці былі зразумелымі і экалагічная інфармацыя была лёгкадаступнай шляхам, сярод іншага:

a) давядзення да грамадскасці дастатковай інфармацыі пра тое, у якім выглядзе і ў якіх межах ахопу знаходзіцца экалагічная інфармацыя ў распараджэнні адпаведных дзяржаўных органаў, а таксама пра галоўныя ўмовы, якія вызначаюць магчымасць выдачы такой інфармацыі і доступу да яе, і пра працэс атрымання інфармацыі;

b) арганізацыі і ажыццяўлення такіх практычных захадаў, як:

i) забеспячэнне для грамадскасці спісаў, рэгістраў або архіваў;

ii) замацаванне абавязкаў для службовых асобаў аказваць падтрымку грамадскасці ў атрыманні доступу да інфармацыі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй;

iii) выдзяленне пунктаў сувязі, і

c) забеспячэння бясплатнага доступу да экалагічнай інфармацыі, якая змяшчаецца ў спісах, рэгістрах або архівах, згодна з падпунктам b) i) вышэй.

3. Кожны Бок забеспечвае паступовае павялічэнне аб'ёму экалагічнай інфармацыі ў электронных базах дадзеных, якія з'яўляюцца лёгкадаступнымі для грамадскасці праз публічныя сеткі сувязі. Даступная ў такой форме інфармацыя павінна ўлучаць:

a) даклады аб стане навакольнага асяроддзя, гл. пункт 4 ніжэй;

b) тэксты заканадаўчых актаў па пытаннях навакольнага асяроддзя або маючых да яго дачыненне

c) у адпаведных выпадках дакументы па пытаннях палітыкі, праграмы ў галіне навакольнага асяроддзя або маючых да яго дачы-

ненне, а таксама прыродаахоўныя пагадненні; і

d) іншую інфармацыю ў той ступені, у якой наяўнасць названай інфармацыі ў такой форме аблегчыць прымяненне нацыянальнага заканадаўства ў ажыццяўленні гэтай Канвенцыі,

пры умове, што такая інфармацыя ўжо маецца ў электроннай форме

4. Кожны Бок праз рэгулярныя інтэрвалы, не даўжэй як тры ці чатыры гады, публікуе і распаўсюджвае нацыянальны даклад пра стан навакольнага асяроддзя, улучаючы інфармацыю пра якасць навакольнага асяроддзя і звесткі пра нагрузку на навакольнае асяроддзе.

5. Кожны Бок прымае ў рамках свайго заканадаўства захады з мэтай распаўсюджвання, у прыватнасці:

a) заканадаўчых актаў і дырэктыўных дакументаў, такіх як стратэгіі, дакументы па пытаннях палітыкі, праграмы і планы дзеяння ў галіне навакольнага асяроддзя і даклады аб ходзе іх ажыццяўлення, падрыхтаваныя на розных узроўнях дзяржаўнага кіравання;

b) міжнародных дамоваў, канвенцый і пагадненняў па пытаннях, што датычаць навакольнага асяроддзя; і

c) у адпаведных выпадках іншых важных міжнародных дакументаў па пытаннях, што датычаць навакольнага асяроддзя.

6. Кожны Бок заахвочвае аператараў, дзейнасць якіх мае істотны ўплыў на навакольнае асяроддзе, рэгулярна інфармаваць грамадскасць пра ўплыў іх дзейнасці і прадуктаў на навакольнае асяроддзе, робячы гэта, у адпаведных выпадках, у рамках выкарыстання добраахвотных сістэм экамаркіроўкі і экалагічнай экспертызы або з дапамогай іншых сродкаў.

7. Кожны Бок:

a) публікуе фактычную інфармацыю і яе аналіз, якія лічыць да месца і важнымі для распрацоўкі найбольш істотных прапаноў па пытаннях экалагічнай палітыкі;

b) публікуе або іншым чынам забяспечвае доступ да наяўнага матэрыялу (з тлумачэннямі) пра свае кантакты з грамадскасцю па пытаннях, што ўваходзяць у сферу дзеяння гэтай Канвенцыі; і

c) падае ў належнай форме інфармацыю пра выкананне дзяржаўнымі органамі на ўсіх узроўнях дзяржаўных функцый або пра аказанне паслугаў насельніцтву, якія маюць дачыненне да навакольнага асяроддзя.

8. Кожны Бок распрацоўвае механізмы з мэтай давядзення да грамадскасці дастатковай інфармацыі аб прадуктах такім чынам, каб даваць магчымасць спажыўцам рабіць абгрунтаваны выбар з улікам інтарэсаў аховы навакольнага асяроддзя.

9. Кожны Бок робіць захады па паступоваму разгортванню (...) узгодненай агульнанацыянальнай сістэмы кадастраў або рэгістраў забруджвання з выкарыстаннем структураванай, камп`ютэраванай і даступнай для грамадскасці базы дадзеных, якая складаецца на падставе стандартнаванай сістэмы справаздачнасці. Такая сістэма можа ўлучаць звесткі пра паступленне, вылучэнне і перанос у выніку ажыццяўлення канкрэтнага кола відаў дзейнасці пэўнага шэрагу рэчываў і прадуктаў, у тым ліку пры выкарыстанні вады, энергіі і рэсурсаў, у розныя сферы навакольнага асяроддзя, а таксама на ўчасткі апрацоўкі і выкідвання, што знаходзяцца ў межах прамысловых аб'ектаў ці за іх межамі.

10. Нішто ў гэтым артыкуле не можа прычыніць урону праву Бакоў адмаўляць у раскрыцці экалагічнай інфармацыі ў адпаведнасці з палажэннямі пунктаў 3 і 4 арт. 4.

Артыкул 6

## Удзел грамадскасці ў прыняцці рашэнняў па канкрэтных відах дзейнасці

1. Кожны Бок:

a) прымяняе палажэнні гэтага артыкула адносна рашэнняў, што датычаць пытання аб мэтазгоднасці дазволу плануемых відаў дзейнасці, пералічаных у дадатку 1 (перш-наперш гэта: 1) энергетыка, сярод іншага: нафтаперапрацоўчыя і газаперапрацоўчыя заводы, атамныя электрастанцыі і іншыя атамныя рэактары і спадарожныя ўстаноўкі з ядзерным палівам, а таксама 2) вытворчасць і апрацоўка металаў і інш. - рэдакцыя)*



b) у адпаведнасці са сваім нацыянальным заканадаўствам таксама прымяняе палажэнні гэтага артыкула да рашэнняў па відах дзейнасці, што прапануюцца, якіх няма ў дадатку 1 і якія могуць аказваць значнае ўздзеянне на навакольнае асяроддзе. З гэтай мэтай Бакі вызначаюць, ці ахопліваецца такі плануемы від дзейнасці гэтымі палажэннямі; і

c) можа, калі гэта прадугледжваецца нацыянальным заканадаўствам, прымаць у кожным канкрэтным выпадку рашэнне аб непрымяненні палажэнняў гэтага артыкула да плануемай дзейнасці, якая служыць мэтам нацыянальнай абароны, калі гэты Бок лічыць, што такое прымяненне адмоўна паўплывае на названыя мэты.

2. Зацікаўленая грамадскасць адэкватна, своечасова і эфектыўна інфармуецца, у залежнасці ад абставін, альбо шляхам публічнага паведамлення, альбо ў індывідуальным парадку на самым пачатку працэдуры прыняцця рашэнняў па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя, пра, сярод іншага:

a) плануемы від дзейнасці і заяўку, па якой будзе прымацца рашэнне;

b) характар магчымых рашэнняў альбо праект рашэння;

c) дзяржаўны орган, адказны за прыняцце рашэння;

d) працэдуру, якая прадугледжваецца, і ўлучна пра тое, якім чынам і калі такая інфармацыя можа быць выдадзеная:

- i) пра пачатак ажыццяўлення працэдуры;
- ii) пра магчымасці ўдзелу грамадскасці;
- iii) пра час і месца любога намечанага публічнага слухання;
- iv) пра наяўнасць дзяржаўнага органа, дзе можна атрымаць адпаведную інфармацыю, і пра тое, куды адпаведная інфармацыя была перададзеная на разгляд грамадскасці;
- v) пра наяўнасць адпаведнага дзяржаўнага органа або любога іншага афіцыйнага органа, якому могуць перадавацца заўвагі або пытанні; і пра тэрміны gерадачы заўваг ці пытанняў; і
- vi) пра тое, якая экалагічная інфармацыя, што датычыць плануемага віда дзейнасці, маецца ў наяўнасці; і

e) ахоп дадзенага віда дзейнасці нацыянальнай або трансгранічнай працэдурай ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе.

3. Працэдуры ўдзелу грамадскасці прадугледжваюць разумныя тэрміны ажыццяўлення розных этапаў, якія пакідаюць дастаткова часу для інфармавання грамадскасці ў адпаведнасці з пунктам 2 вышэй, падрыхтоўкі і эфектыўнага ўдзелу грамадскасці ў працэсе прыняцця рашэнняў па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя.

4. Кожны Бок забяспечвае ўдзел грамадскасці ўжо на самым раннім этапе, калі адкрыты ўсе магчымасці для разгляду розных варыянтаў і калі можа быць забяспечаны афектыўны ўдзел грамадскасці.

(...)

6. Кожны Бок патрабуе ад кампетэнтных дзяржаўных органаў забяспечыць для зацікаўленых колаў грамадскасці, па атрыманні запыту ад іх, там, дзе гэта патрабуецца ў адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам, бясплатны доступ да ўсёй інфармацыі, якая мае дачыненне да працэса прыняцця рашэнняў (...) з мэтай яе вывучэння. Адпаведная інфармацыя павінна сама меней і без урону палажэнням артыкула 4 ўлучаць:

a) апісанне прамысловага аб'екта, фізічных і тэхнічных характарыстык прапануемай дзейнасці, улучна з ацэнкай меркаваных рэшткаў і выкідаў;

b) апісанне значнага ўздзеяння плануемай дзейнасці на навакольнае асяроддзе;

c) апісанне захадаў, што прадугледжваюцца для пазбягання і/або памяншэння ўздзеяння, маючы на ўвазе і выкіды;

d) нетэхнічнае рэзюмэ вышэйсказанага;

e) план галоўных альтэрнатываў, разгледжаных падаўцамі заяўкі; і

f) адпаведна з нацыянальным заканадаўствам, галоўныя даклады і рэкамендацыі, накіраваныя дзяржаўнаму органу, тады як зацікаўленай грамадскасці будзе даводзіцца інфармацыя адпаведна з пунктам 2 вышэй.

7. Працэдуры ўдзелу грамадскасці дазваляюць ёй падаваць у пісьмовай форме або, калі неабходна, у ходзе публічнага слухання ці разгляду пытання з удзелам падаўцы заяўкі любыя заўвагі, інфармацыю, аналіз або меркаванні, якія, на яе погляд, маюць адносіны да плануемай дзейнасці.

8. Кожны Бок забяспечвае, каб у адпаведным рашэнні належным чынам былі адлюстраваны вынікі ўдзелу грамадскасці.

9. Кожны Бок забяспечвае, каб пасля прыняцця рашэння дзяржаўным органам грамадскасць была неадкладна інфармаваная пра гэта рашэнне ў адпаведнасці з належнымі працэдурамі. Кожны Бок падае грамадскасці тэкст рашэння разам з указаннем прычын і меркаванняў, што пакладзены ў аснову гэтага рашэння.

10. Кожны Бок забяспечвае, каб пры пераглядзе або абнаўленні дзяржаўным органам умоў ажыццяўлення дзейнасці, пра якую гаворыцца ў пункце 1, палажэнні пунктаў 2-9 гэтага артыкула прымяняліся mutatis mutandis, а таксама ў тых выпадках, калі гэта метазгодна.

11. Кожны Бок у рамках свайго нацыянальнага заканадаўства прымяняе ў магчымай ступені і належным чынам палажэнні гэтага артыкула да рашэнняў, якія адносяцца да выдачы дазволаў на загадзя планаваны выхад генетычна змененых арганізмаў у навакольнае асяроддзе.

Артыкул 7

## Удзел грамадскасці ў рашэнні пытанняў, якія датычаць планаў, праграм і палітыкі, звязаных з навакольным асяроддзем

Кожны Бок прадугледжвае адпаведныя практычныя і/або іншыя палажэнні адносна ўдзелу грамадскасці ў рамках адкрытай і справядлівай структуры ў працэсе падрыхтоўкі планаў і праграм, звязаных з навакольным асяроддзем, даючы грамадскасці неабходную інфармацыю. У рамках гэтай структуры прымяняюцца пункты 3, 4 і 8 артыкула 6. Адпаведны дзяржаўны орган з улікам мэтаў гэтай Канвенцыі вызначае кола грамадскасці, якое можа прымаць удзел у гэтым працэсе. Па магчымасці кожны Бок робіць намаганні для забеспячэння грамадскасці магчымасцю для ўдзелу ў распрацоўцы палітыкі, звязанай з навакольным асяроддзем.

Артыкул 8

## Удзел грамадскасці ў падрыхтоўцы нарматыўных палажэнняў, якія маюць непасрэдную выканаўчую сілу і/або агульнапрымяняльных юрыдычна абавязковых нарматыўных актаў

Кожны Бок робіць намаганні для спрыяння эфектыўнаму ўдзелу грамадскасці на адпаведным этапе, пакуль застаюцца адкрытымі магчымасці для выбару, у падрыхтоўцы дзяржаўнымі органамі нарматыўных палажэнняў, якія маюць непасрэдную выканаўчую сілу, і іншых агульнапрымяняльных юрыдычна абавязковых правілаў, якія могуць істотна паўплываць на навакольнае асяроддзе. З гэтай мэтай робяцца наступныя захады:

a) прызначаюцца тэрміны, дастатковыя для забеспячэння эфектыўнага ўдзелу;

b) праекты правілаў публікуюцца або перадаюцца грамадскасці іншым чынам; і

c) грамадскасці даецца магчымасць накіраваць свае заўвагі непасрэдна або праз прадстаўніцкія кансультатыўныя органы.

Вынікі ўдзелу грамадскасці ўлічваюцца ў максімальна магчымай ступені.

Артыкул 9

## Доступ да правасуддзя

1. Кожны Бок у рамках свайго нацыянальнага заканадаўства забяспечвае, каб любая асоба, якая лічыць, што яе просьба аб доступе да інфармацыі, пададзеная ў адпаведнасці з артыкулам 4, не разгледжана, неправамоцна адхілена, ці то часткова ці то цалкам, неадэкватна задаволена ці — што ў нейкіх іншых адносінах да гэтай просьбы дапушчаны падыход, які не адпавядае палажэнням указанага артыкула, -- мела доступ да працэдуры разгляду прынятага рашэння ў судзе або ў іншым незалежным і непрадузятым органе, заснаваным адпаведна з законам.

У тых выпадках, калі прадугледжваецца такі разгляд рашэння ў судзе, Бок забяспечвае, каб такая асоба мела таксама доступ да ўстаноўленай законам хуткай працэдуры, якая не патрабуе альбо патрабуе мінімальнай аплаты, для паўторнага разгляду дзяржаўным органам або разгляду незалежным і непрадузятым органам, які не з'яўляецца судом.

Канчатковыя рашэнні, што прымаюцца ў адпаведнасці з дадзеным пунктам 1, маюць абавязковы характар для дзяржаўнага органа, які валодае адпаведнай інфармацыяй. Прычыны выкладаюцца ў пісьмовай форме, прынамсі, у тых выпадках, калі просьба аб выдачы інфармацыі адхіляецца ў адпаведнасці з дадзеным пунктам.

(...)

5. Для павышэння эфектыўнасці палажэнняў гэтага артыкула кожны Бок забяспечвае, каб грамадскасць інфармавалася аб доступе да адміністратыўных і судовых працэдур разгляду рашэнняў, і разглядае пытанне аб стварэнні адпаведных механізмаў аказання дапамогі па ўхіленні або памяншэнні фінансавых ці іншых перашкодаў для доступу да правасуддзя.

(...)

Артыкул 15

## Разгляд захавання

Нарада Бакоў вызначае на падставе кансенсуса факультатыўныя захады неканфрантацыйнага, несудовага і кансультатыўнага характару для разгляду захавання палажэнняў дадзенай Канвенцыі. Гэтыя захады забяспечваюць належны ўдзел грамадскасці і могуць улучаць магчымасць разгляду паведамленняў прадстаўнікоў грамадскасці па пытаннях, якія адносяцца да гэтай Канвенцыі.

*Орхус (Данія), 25 чэрвеня 1998*



## SUMMARY

***A chance for readers to acquaint themselves with the 1998 UN Convention on Access to Information, Public Participation in Decision-Making, and Access to Justice in Environmental Matters (Aarhus, Holland). Belarus agreed to adhere to this document at the time of signing, but the state has failed to promote it since then. This independent newspaper has taken the initiative to publish and discuss the articles of the Convention in order to make international ecological law available to the environmentalist public. Financial support for this section was provided by the UN Office in Minsk.***

* *дадатак 1 будзе надрукаваны ў наступным нумары*

# Аўтапартрэт з вербалозных галінак

## Падарожжа па рэчышчы забітай рэчкі

**_Валерый Дранчук_**

*Працяг.*
*Пачатак у папярэднім нумары.*

**Выток 3/*****

Канал даваў правы ход. Азірнуўшыся, мы ледзь пазналі ў далечыні абрысы роднага хутара. “Так змянілася ўсё, — прамовіў сын.—Быццам хто перастравіў дамы і дрэвы. А нашу дарогу, тата, бачыш? Адсюль зусім не такая, яе не пазнаць”.

І сапраўды. Выцягнутая ў межах звыкла-будзённага сузірання, прасёлкавая дарога, што вяла на Зарэчча, а там на Крамец, Перакопаўшчыну, аж да слыннае Мікалаеўшчыны, – раптам выбліснула сярод далёкага поля вертыкальным паскам, імкнула ўгору, падпіраючы захмараны гарызонт. Я дастаў аловак і зрабіў штрыхавы накід. Уражаны, падумаў: да чаго ж моцна трымае чалавека жыццё ў аднастайнасці форм і стасункаў нават з блізкім навакольным светам.Як важна хоць на паўкроку адступіцца ўбок з выбітых паўсядзённасцю пуцявінаў звыклага жыццяладу.

Высокія, мне па пояс, зараснікі асоту хутка перагарадзілі шлях, і мы з Цімохам, не доўга думаючы, палезлі на другі бок канала. Было відаць, канал не выкошваўся тут гадоў пяць. Мне ўпершыню зрабілася шкада, што нават гэтыя няшчасныя паследкі былое рэчкі кінуты на паміранне. Прайшлі з кіламетр, а нідзе і не згледзелі нават руху вады. Яшчэ залетась ручай жыў, праразаючы сабе нялёгкую дарогу, адольваючы сапраўднае апалчэнне аеру, плiснягу ды іншага балотнага разназёлу, што ў прадчуванні блізкага канца, шукаючы апошняга прытулку, кінуліся да вады і вільгаці. Які ні быў ручай, а ручай. Якая ні была вада, а вада... Зусім зрабілася сумна. Я нагадаў Цімоху, які, здаецца, падзяляў маё шкадаванне і роспач, што ідзём мы па РЭЧЫШЧЫ ЗАБІТАЙ РЭЧКІ, што праз які дзесятак гадоў не застанецца следу і ад самога канала.

Моўчкі пайшлі далей. Сярод прастору, дзе не было і воку за што зачапіцца, — ні дрэва, ні кусціка, ні чалавека, ні птушкі, — воблакі над намі здаваліся незвычайна блізкімі

і поўнымі малюнкавасці. Можа, яны, нястомна лятункавыя, — вандроўнікі нашых мараў і летуценняў? Як мала часу стае нам глядзець на іх неабсяжна глыбокі, казачна фантастычны свет, назапашаны за доўгія гады існавання нашага на зямлі і ўваскрэслы раптоўна ў завоблачным адлюстраванні таго, што было схоплена прагным вокам даўно, у запамяці. Вунь мышка-ўцякачка паміж халоднай неабдымнасцю захмарных цяснінаў. Імгненне – і няма яе. Воблакі дымяцца, вірую́ць, узнімаюцца, крыляюць. У філіграннай напятасці ражкоў выразна паўстала аднекуль з серабрыстых глыбіняў канфедэратка нябесных памераў, у якой дайшоў да нас з Кракава сын полацкі Францішак. Касмічнае люстэрка займала, зачароўвала наша ўяўленне рухомай шматстайнасцю формаў.

Мы падымаліся на пагорак.

**Галерэя памяці 3/*****

Гэтыя ліпы помняць мяне малога. Старыя добрыя ліпы. Яны засталіся стаяць тым жа цесным радком пры самым лузе, на ўмуравелым краі невялічкага поля. Прыходжу сюды, каб пастаяць, пакратаць далонню кару, надоўга спыніць позірк там, у кронах..

Ліпень. Іх свята ў поўным разгары. Знячэўку пачуеш мядовы водар, міжволі спынішся і захочацца ў голас прымовіць: “Ліпа зацвіла...” І ўсё наваколле пачуе тваё ўзрушэнне, словы хвалы і чалавечае ўдзячнасці. Пяць старых высозных ліп. У ствалах некаторых – дуплянкі. Адно з дрэў расшчэплена навальніцай. Я дзіўлюся, стоячы, з таго, што ліпы ўсе да адной гэтак шчодра, ахвярна цвітуць. На іх сотні галін, на галінах – тысячы маленькіх галінак і на кожнай з іх – духмяная аздоба, powенькі цвет. Выносныя стаўпы ствалоў тояць пяшчоту жаночай грацыі. Вунь сук, на які я любіў залезці, быццам на матчыны ўлонкі, і глядзець на луг, рэчку, далёкі груд. На жаль, рэчкі ўжо не ўбачу, зніклі з аблічча зямнога зарэчныя салаўіныя хутары, раскапаная Раманава гара, дзе жанчыны збіралі траву на зёлкі, даўно ператварылася ў дзікую смеццезвалку.

У 1985 годзе ў калгасе задумалі стварыць для дзяцей скульптурную галерэю казачных герояў. Хтосьці ўспомніў пра ліпы, падказаў старшыні калгаса, і той, не задумваючыся, загадаў распачаць нарыхтоўку. На шчасце, з васьмі прыгажуньмадонаў пяць ацалела. Казалі, адзін пільшчык не вытрымаў, кінуў работу, і пакуль шукалі замену, знайшліся-такі заступнікі.

> *Абвостранае пачуццё да родных мясцін,*
> *адчуванне нязмерных, а часам незваротных страт,*
> *якія трывае наша прырода,*
> *нашы ландшафты, пахілілі мяне*
> *гадоў колькі таму да мары прайсці ўверх*
> ***па рэчцы дзяцінства***
> *аж да яе вытоку.*
> *Дзе ён, цуд-пачатак роднай Гавязьнянкі,*
> *на якім кіламетры ад майго дому,*
> *у якой навакольнай акрасе-дэкарацыі,*
> *пад якім небам?*



*Малюнак аўтара*

**Рэчышча 3/*****

Вочы твае, Гавязьнянка, зараслі травою, што калісьці абступала сінюю плынь.

Чалавек з касою выкасіць гэтую траву, ты прамежыш вочы, ледзве згледзеўшы высокае неба. Жахнешся сваіх берагоў, па-магільнаму глыбокіх і роўных. Такіх чужых. І неўзабаве зноў заплюшчыш вочы – там, дзе рэчышча захлынулася, зарасло, перасохла.

Балотцы, яшчэ не збяднелыя дарэшты, сабраўшы дзе-нідзе скарб, нясуць табе ў прыгаршчах, бы святую вадзіцу. І ты зноў вяртаеш сабе відушчасць ды жывую плынь.

Люстэрачкамі святла азорваюцца ваколіцы, святлее лугавая трава, ласкавее паднебная далячынь.

У вочы табе, Гавязнянка, саромеюцца паглядзець людзі. А тыя, што страцілі сорам і сэрца, прыходзяць да цябе з мяхамі смецця.

Я разумею, чаму твае вочы поўныя слёз, мая рэчка.

**Выток 4/*****

Леваруч за пагоркам, на які мы ўзыходзілі, агінаючы забалаць, паказалася вёска Кучкуны. Зусім блізка былі відаць калгасныя блочныя пабудовы, за імі, на краі могілак, бялеў рэшткамі тынкоўкі напаўразбураны касцёл. З расказаў бацькі я ведаў, што дзесьці на гэтым месцы сярод сенажаці стаяў маляўнічы хутар з сажалкай і вячыстымі дрэвамі. Сажалка разам з сенакосам належала гаспадару-ўласніку, і ейная даступнасць была няпоўнай для вясковай дзятвы. Гаспадар бярог сенакос ад лішніх сцежак і да набегаў купальшчыкаў ставіўся досыць непамяркоўна. Успамін бацькі падсвечваецца блакітна-далёкім сілуэтным вяночкам сядзібы, ужо з маёй памяці. З гадамі вяночак знік з далягляду наўколля, як і дзесятак іншых сядзібаў былой хутарской сістэмы.

Рэшткаў хутара мы не знайшлі. Наўкруга буяла высокая мурожная трава, паміж якой было асалодна ўявіць сябе ў аўры хутарской старасвеччыны, на беразе сажалкі. Усё

працяг на ст. 8

SUMMARY

*A Self-Portrait in Willow Branches is the title of this ecological essay by Valeriy Dranchuk, which he dedicates to a brook of his childhood. It is a journey through space and time to the source of his beloved Havaznyanka stream, to events of the 60s, and to those people who decided the fate of the natural world. Illustrations and photographs by the author.*

*са старонкі 7*

нібыта адышло, адкрасавала, аднак жа вось, не ведаю чаму, і ўспамінаецца, і ўздыхаецца. Можа таму, што так абязлюднена зараз навокал. Ціха. Чуваць, як гамоніць з травою вецер ды зрэдку падасць голас адна і тая ж птушка. І ніводнага дрэўца, толькі ўдоўж і ўпоперак слупы электраперадач.

Перайшлі асфальтавую дарогу, што паварочвала з-пад касцёла і праставала на Нясвіжскі гасцінец. Праваруч заставалася Петухоўшчына, наперадзе пры гасцінцы пачыналіся прысады і хаты вёскі Старыя Навасёлкі. З моста было відаць, што канал падыходзіць да самага гасцінца і, мабыць, перасякае яго, а далей... Няўжо выток Гавязьнянкі дзесьці там, у навасёлкаўскіх пастаўніках, побач з гасцінцам?



** чым бліжэй да вясны, тым больш прыкметны крынічны сьлядок былой сажалкі. Яшчэ колькі дзён — і на ружаватыя мёданосныя суквецці белакапытніку зляцяцца з ваколіцы першыя пчолы, жучкі і мошкі.*

** вось яна — першая кветка белакапытніку. Фота аўтара. Люты — красавік, 1999*

**Галерэя памяці 4/*****

За градою ліп пачынаўся нястромы спуск, густа пакрыты шырокімі лістамі балотнага лопуху, пад якімі няцяжка было схавацца ў дождж нават даросламу. Мы, дзеці, любілі рваць лопух на трубкі, балазе высокія пустацелыя сцябліны добра ламаліся. Парасонамі лістоў можна было адмыслова маскіравацца, гуляючы ў хованкі. Вясною, ледзь сыдзе снег, лопух зацвітаў як самая найэкзатычная расліна. З зямлі, яшчэ голай, але абагрэтай першымі промнямі, вытыркаў моцны парастак-стволік з безліччу бела-ружовых кветачак, на якія зляталіся пчолы, як толькі кветачкі распускаліся.

Для мяне сапраўдная вясна пачыналася тут, на сажалцы – так называлі гэту мясціну дарослыя і дзеці. Ад самой сажалкі засталося шмат і няшмат. Няшмат, калі казаць пра ваду, люстэркавую роўнядзь, бо гэта няведама калі адышло ў нябыт. Вельмі шмат, калі мець на ўвазе тое, што цудам і казкай ляжала каля маіх ног.

Бераг сажалкі нагадваў падкову. У яе разамкнёнае чароўнае паўкола ўваходзіў прыгаданы спуск з грэбенем ліп, ніжэй бралася асака, саступаючы дрыгвяністай балаціне, што займала цэнтральную частку нашае сажалкі.

З заходняга боку балаціну абступала высокая закусцелая трава, плёўся густы, пераважна лежабокі, з амшэлым карэнішчам вербалознік. Дзесяткі хадоў-лазаў вялі ў гэты зялёны лазовы рай. Па галі нах, што чароўна прыспускаліся да цёмнай, амаль непрагляднай, шчыльна пакрытай зялёнай рас⁄кай вады, можна было далезці ў самае сэрца сажалкі, затаіцца, па⁄быць дзесьці побач з гняздом перапуджанай птушкі-беражанкі і вярнуцца на свет абжытай звы⁄чайнасці, адчуваючы ў глыбіні душы



абнову і лёгкую ўзрушанасць. Рэдка хто ас⁄мель⁄ваўся зайсці на сярэ⁄дзіну балаціны. Нават ад берага, спачатку тупкага і ўмуравелага, праз некалькі крокаў зямля трациіла ўла⁄сцівасць надзейнага апірышча для нагі, пагойдвалася ад першага до⁄тыку. Былі сярод дзятвы смельчакі, якія заходзілі небяспечна далёка і ўжо амаль на плыву, стоячы па ка⁄лена ў куп'істай траве, гналі дрыгвяную хвалю, в а г а л і с я.

У сенакос сажалку выкошвалі, паміж пракосаў, бачна было, сямтам паблісквала вада. Аднойчы, расказвалі, хтосьці з касцоў, забыўшыся на страх і рызыку, праваліўся спачатку адной, пасля другою нагою. Бедалагу, на шчасце, дапамаглі неяк выкараскацца, а той выпадак атрымаў устойлівую пагалоску з-за не абы-якога сведчання, што дзядзька да дна не дастаў.

Вада ў сажалцы была заўсёды халодная, крынічна сцюдзёная.

Колькі іх, крынічак, бруілася тут, ніхто не ведаў, бо ніводная не выходзіла на паверхню, не адкрывалася вачам у сваім непасрэдным ваданосным дзеянні і поўным аблічы. Аднак галоўнай лічылася тая, што халадзіла ножкі самотнай крушыны. Раней, казалі, там ляжаў вялікі камень, які быццам змыкаў ражкі падковы. З часам ён зарос і ўвайшоў у

** з-за пагорка паўставаў малюнак, які навяваў адчай і маркоту.*



## пужок LAWN

*Людзі, стагоддзямі сялібуючы на зямлі, ўважалі за лепшае трымацца родных мясцінаў, дзе нарадзіліся і выраслі, вучылі гэтай мудрасці сваіх дзяцей, знаходзілі словы, каб перадаць пачуцці поўна і вобразна. З цягам часу іх выказванні шліфаваліся, рабіліся кароткімі і яснымі, добра запаміналіся. Гэта давала ім крылы. Сярод такіх выказванняў - прымавак, прыказак - найадметныя ўзоры вуснага народнага слова. Яны вартыя глыбокага засваення і пашаны на ўсе часы. Давайце вучыцца мудрасці любіць свой дом і шанаваць Бацькаўшчыну.*

## Ідзі ў родны край...

**Н**а *роднай зямлі* , як на камлі

**Р***одная зямелька* як змораному пасцелька

**У** *родным краю* як у раю

**І**дзі ў *родны край*, там і пад елкаю рай

**Д**арагая *тая хатка*, дзе радзіла мяне матка

**С***вой дварочак* – як вяночак

**Л**я сонца цёпла, *ля дому* добра

**У** *родным лесе* і куст родны

**Н**яма смачнейшай вадзіцы, як з *роднай крыніцы*

**Д**ля ўсякай птушкі *сваё гнязда* міла

**Д**обрая птушка ў *сваё гняздо* не гадзіць

**С**вет прайшла і *назад* вярнулася



*Фота: Валерый Драннук*

**Няхай жыве і пасецца беларуская птушка бусел!**

# З днём народзінаў, вольнае птаства!

## Калі птушкі сядалі на гнёзды, нават званы на царкоўных званіцах пераставалі званіць

*З сярэдзіны траўня да сярэдзіны чэрвеня ў прыродзе адказны сезон: бальшыня беларускага птаства сядае на гнёзды, каб вывесці патомства. Гэты перыяд названы месячнікам цішыні і патрабуе ад чалавека адпаведных паводзінаў у асяродках прыроды. Нават званы на царкоўных званіцах пераставалі званіць, каб лішнім гукам не парушыць адвечны закон.*







Фота: Вільгельм Дубіловіч

зямлю. А на тым месцы паднялася крушына, хораша затуліўшы купчастай кронаю ўлонне крыніцы. Адсюль у бок рэчкі выцякаў, прастуючы цераз луг, нетаропкі сонны ручай. На яго шляху ўздымалі вочы да неба дзве маленькія азярынкі, з якіх любілі напіцца каровы, прасадзіўшы пысы скрозь малады дубцаваты алешнік.

Такім парадкам, калі залезці на ліпу і з вышыні другой ці трэцяй галіны глянуць на рэчку і луг, а затым уважлівы позірк перавесці на сажалку, можна было мімаволі ўскрыкнуць, замлець ад захаплення: сажалка стаяла пад гарою, у прыгожай, трапна вызначанай мясціне і паяднoўвала ўсе кампаненты блізкага наваколля. Мастак-прырода ці мастак-чалавек? Хутчэй за ўсё, стваральніцай гармоніі была іх садружнасць. Прынамсі, даўным-даўно чалавек пасадзіў гэтыя ліпы, абвалаваў бераг сажалкі, паклаў на шчасце жывую падкову, у якой, магчыма, круціліся жорны вадзяка ці проста вяліся ракі.

Калі пад ліпы прыйшла меліярацыя, сажалку дабівалі дні тры.Нажы бульдозераў пласт за пластом зразалі тлустую чорную зямлю; хутка на месцы падковы быў нагорнуты стоўп зямлі, які нагадваў гіганцкае надмагілле.

Я гэта бачыў, два дні сачыў за бясконцым сноўданнем стальных павукоў, якія, збаёдаўшы крохкую падкову, намагаліся старанна схаваць яе, утаптаць, пакласці на гэтым крыж. Калі работа была скончана, я прыйшоў на магілу і сярод гусенічных слядоў убачыў выразны след злавеснага крыжавання.

Мінула колькі гадоў. Неяк увесну я прыехаў дадому і следам за пчалою пайшоў да сажалкі. На тым самым месцы, дзе калісьці зацвітала ранняя кветка зялёнага парасона, пчолы збіралі свой першы нектар. "Дзень добры, свечкі дзяцінства!" — прашаптаў я. Дзівосных кветак было куды менш. Але нават адна мне здалася б цудам. Як здаецца цудам вільготны след на месцы былой крынічкі. Яшчэ не сканала...

Надзея жыла да апошняга часу. Восенню 1991 года зноў прыйшлі меліяратары і на высокім сухадоле

> *Пакрытая раскай, сажалка стаяла пад гарою ў прыгожай, трапна вызначанай мясціне, як бы паяднoўваючы ўсе кампаненты наўколля.*

пракапалі яшчэ адзін глыбозны канал. Цяпер ад былое сажалкі з крыніцай пад гарой ані следу не засталося. Можна было спадзявацца хіба што на цуд.

Да напісанага тым часам напрошваецца постскрыптум. Гартаючы свежы, з пахам друкарскае фарбы том Чырвонай кнігі Беларусі і спыніўшыся на старонцы 412-й, я адчуў моцнае ўзрушанне: ці то радасць, ці то горкае расчараванне... Вось дзе яна апынулася, дзівосная кветка роднага ўлоння. Ледзьве не плачучы, я перачытаў назву: "БЕЛАКАПЫТНІК ГІБРЫДНЫ (ЛЕКАВЫ)". І ніжэй: "Рэдкі від, які трапляецца ў невялікай колькасці на абмежаваных плошчах..." Падумалася: як жа доўга цябе **в ы н і ш ч а л і**, гаротная мая кветка, белакапытнік лекавы, сярэднееўрапейскі горны рэліктавы від. У пераліку мясцінаў, пазначаных як тэрыторыя пашырэння віду, Стаўпецкага раёна яшчэ не было.

**Рэчышча 4/*****

Голы да пояса, учарнелы ад сонца, чалавек выпрастаўся і, па звычцы палюяваўшы на рукі, абапёрся на касільна, пазіраючы на нас. Мы заўважылі яго здалёк, я падумаў, што гаспадар прыйшоў на канал нарыхтаваць травы для сваёй жывёлы. Спрытна махаючы касой, ён пракос за пракосам клаў сцяну розназёлу, што сёлета, пасля добрых дажджоў, высока пабраўся па схілах канала. Метраў за сто ад нас ляжаў пакінуты ровар, пабліскваючы рулём на сонцы. Знаёмімся. Іван Харашаеў – сезонны рабочы міжраёнага ўчастка арашальна-асушальных сістэм (МУААС). Жыве ў Нясвіжы. Абкошванне меліярацыйнага канала для яго сталася галоўнай справай гэтага лета. Работа цяжкая і малааплатная. На шырокіх схілах шматкіламетровай трасы "каса не хадзіла гадоў пяць", як сказаў Харашаеў. У шчыльных зарасніках балотнай травы ды дробнага вербалоззя ледзь праглядваецца сям-там ручэйная плынь. "Ёсць такая моц, — Харашаеў тлумачыць, паказваючы на траву, — што не хоча браць нават каса. Тады ў ход пайшла сякера... — Памаўчаўшы, дадае: — Калі не пакінуць за мною гэты ўчастак на наступныя гады, больш нагі маёй тут не будзе. Хай пашукаюць дурняў".

Не ведаю, ці абкосіць да канца жніўня намечаныя кіламетры сезонны рабочы Іван Харашаеў. Гэта амаль увесь наш сённяшні пройдзены шлях, часам непралазны і забуялы, які трэба прайсці-адолець чалавеку з касой. Спачуваючы, мушу, аднак, разважыць. З аднаго боку, цяперашні стан меліярацыйных каналаў, дзе яшчэ сляязяцца рэшткі былых рэчак-красунь, нібы й вымушае таго, каб чалавек быў тут як мага больш уважаны. А з другога... Ці не насуперак гэта зусім натуральнаму працэсу забалочвання рачнога ўлоння, вяртання былых акумулятараў жыватворнай вільгаці да свайго адвечнага кола. Не чапай – і, глядзіш, праз дзесятак гадоў краявід возьмецца ў сілу, паўстане ў зялёнай, кустоўна-траўнай разнастайнасці, падрыгвянее, абазвецца высокім зыкам нябеснага баранчыка – куліка, які любіць сваю купіну, сваё балота.

(заканчэнне ў наступным нумары)

## нашыя словы!

# Салавей

**Цімох Дранчук**

*Маючы ў сваім аўдыёзборы процьму розных галасоў з эстрадна-музычнага свету, выразна ўяўляю, з якой асалодай паслухаў бы салаўя, стоячы дзе-небудзь у наднёманскіх лазняках ці алешніках. Радасць была б і ад песні, і ад самога ўсведамлення птушынага існавання, бо хто ведае, ці пачуў бы я сёння салоўку ў тых самых мясцінах, дзе давялося чуць гадоў пяць таму. Звіць зацішнае гняздзечка гэтай птушцы ўсё цяжэй, мы гэта добра ведаем і нават усведамляем сваю віну.*

*Была б мая воля, выдаваў бы мясцінам, паселішчам, хутарам, дзе пяюць яшчэ салаўі, своеасаблівыя ахоўныя граматы. Вядома, напрыклад, што салавей ладзіць свой дом не абы-дзе, а там, дзе яму хораша і спакойна, дзе ўсе зручнасці жыцця пад рукой, побач. Чым больш раслiннасці і чым больш яна багацейшая, тым лепш салаўю. Лістоўныя лясы паміж палёў, чыстыя гаі, берагі рэчак, парослыя купчастым кустоўем, зялёныя нізінкі - - тут яго жаданыя дом і дах. Любіць сялібавацца блізу вады, з дрэў часцей выбірае асіну, а ўвогуле -- бярэзнікі ды алешнікі або дзе шмат чаромхі, дзікай маліны, балотнага хмызу. З садоў выбірае ягадныя, дзе вішняк, парэчнік, маліна, дзе густа й не пуста. Такое, бадай, любой птушцы было б даспадобы, але салаўю пагатоў.*



*Аднойчы ў жыцці я меў шанец паглядзець на гэтую птушку праз шкельцы бінокля. Крыху здзівіўся, калі ўбачыў зверху на ім андарак чырвона-бурага колеру. Горла бялейшае, але таксама буравагае. На грудзях паспеў разгледзець малавыразны стракаты пасачак. Увогуле, афарбоўка салаўя нагадала мне колер балотных ручаінак з іржава-чырвоным адценнем.*

*Ёсць сведчанні, што вывесціся сапраўдны галасісты салавей можа там, дзе ягоны род мае глыбокія карані і трымаецца іх, дзе яго не зганяюць і не палохаюць. У гэтым мудрасць прыроды, якую чамусьці даўно праігнараваў чалавечы розум.*

# Палёт дзікай качкі, убачаны ўвачавідкі, або Колькі сведчанняў чытацкага досведу

*Мне так і сказалі: "Статус помніка прыроды – гэта фікцыя, ніхто яго ахоўваць не будзе..."*

Добры дзень, "Белавежская пушча"!

З цікавасцю прачытаў апошні нумар і вырашыў неадкладна давесці свой водгук. Тое, што мяне сёння клапоціць, можна было б падаць як адказ на адно з пытанняў анкеты, аднак хутчэй гэта будзе водгукам на "слова рэдактара". Думка пра тое, што шчырая любоў да прыроды вымагае праўдзівага слова за яе стан, вельмі надзённая: сапраўды, біялагічная спадчына нашай Бацькаўшчыны ў небяспецы, яна ніколькі "не ахаваная дэмакратычнымі нормамі дзяржаўнага кіравання ". Хачу пацвердзіць гэтае выказванне. На сваім асабістым прыкладзе я пераканаўся ў яго поўнай справядлівасці.



Рэч тым, што ў другім нумары "БП" за 1998 год я з прытоеным захапленнем прачытаў інтэрв'ю спецыяліста Мінпрыроды Марыны Георгіеўны Кудрашовай. Гаворка ішла пра помнікі беларускай прыроды, працэдуру надання ім адпаведнага ахоўнага статусу. Асабліва ўразіла сведчанне М.Кудрашовай, што некаторыя рарытэты сышлі ў нябыт з-за несвоечасовасці запаведання, некаторыя застаюцца пад пагрозай сёння. Напрамак дзейнасці мне спадабаўся; усё было распісана так, што ў думках я ўжо стаяў каля "сваіх" дубоў і ўсе іх бачыў помнікамі прыроды. Прызнацца, з гэтага нумару, нават з гэтага інтэрв`ю пачалося, так бы мовіць, маё абуджэнне.

Так, я перш-наперш падумаў пра дубы недалёка ад сваёй роднай хаты на беразе маляўнічай ракі. Але на той момант я не мог сабе сказаць, наколькі яны вялікія, нават тыя, што растуць пры самай дарозе, міма якіх я хадзіў ці не кожны дзень. У першы прыезд дахаты я дасканала вывучыў іх і запэўніўся, што некаторыя вельмі вялікія. Прыгажуны-волаты. На жаль, гэта адзіны пазітыўны факт майго расповяду, бо справа надання ім ахоўнага статусу цягнецца за паўгода, хоць з інтэрв'ю я зразумеў, што дастаткова і двух месяцаў. Думаю, і чытачам "БП", і самой Марыне Георгіеўне будзе цікава ведаць, як гэта выглядае на самой справе. Што да чытачоў, скажу адразу: не варта трацiць час на марныя надзеі, што нехта што-небудзь добрае зробіць за вас. Трэба яшчэ і сцэнку прабіць, каб нешта зрушыць з месца.

Спачатку я даслаў ліст з інфармацыяй пра аб'екты (дубы) у Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя (на адрас, які падала газета). Мой ліст пераслалі ў Гродна (абласны камітэт), а затым у раённую інспекцыю прыродаахоны. Відаць, гэта ўстойлівая сістэма, і на выключэнні марна разлічваць. Аднак у мяне былі і пэўныя падставы, бо якраз жа пачаў справу "знізу": перш чым звярнуцца ў Міністэрства, пацікавіўся ў райінспекцыі адносна помнікаў прыроды. Мне далі звесткі, што ў раёне плошчай 156,8 тысяч гекта-раў маецца 10 помнікаў прыроды. Мала гэта ці мно-га, мяркуйце самі: адзін з іх – геалагічны – з выхадам парод на беразе ракі, астат--нія – валуны. І ўсё. Аніводнага дрэва! Яшчэ дадалі ў якасці, так бы мовіць, асобага меркавання, што гэтых помнікаў хапае, нават занадта. Займацца новымі, мяркую, вельмі клопатна дый няма часу. А што да прапановы, дык "мае" дубы, аказваецца, замалыя для надання ім статусу помнікаў прыроды...

Таму я і падаўся "наверх", маючы надзею на лепшае разуменне справы. Я спадзяваўся, што стаячая вада хоць трохі зварухнецца пасля міністэрскага цыркуляра. Памылковае спадзяванне. Хоць, у рэшце рэшт, усё вырашаецца менавіта ўнізе. Па вялікім рахунку, і без цыркуляра, і без ліста можна было брацца за справу пасля майго першага візіту ў інспекцыю. Вось тут, лічу, трэба ставіць дыягназ, — справа ў агульнай інэртнасці, нежаданні выконваць свае прамыя абавязкі. Калі часам нехта рос-пачна кажа: "Каму гэта трэба...", маючы на ўвазе ўсіх нас, дык ён мае рацыю. Але найперш такі настрой пануе з-за стану ўнутраных спраў у дзяржаве. Гэта добра адчувае чыноўнік любога рангу. Ён бачыць адносіны сённяшняй дзяржавы да каштоўнасцяў, у тым ліку экалагічных. Скажам, калі органы адміністрацыі, парушаючы Закон, мардуюць запаведныя тэрыторыі, а Міністэрства прыроды пры гэтым маўчыць і нават згодна хітае галавой – гэта ўжо сімптом значнае змовы: адна рука крадзе, а другая не спяшаецца яе спыніць. Такі стан спраў шмат каму даспадобы – хоць рабіць нічога не трэба. Як вынік, намаганні асобных людзей глушацца агульным нежаданнем падтрымаць ініцыятыву.

З кім я ні гаварыў – і ў райінспекцыі, і ў абласным камітэце, ніхто не прапанаваў выехаць на месца, паглядзець, запэўніцца. Гаворка адразу ішла на адмоўны вынік. Мне ў вочы ніхто не сказаў, што помнікі нам не патрэбны, але я гэта выразна адчуў. Апошнім аргументам (не на карысць прыродных помнікаў) прагучалі словы аднаго з маіх суразмоўцаў: "*Статус помніка – гэта фікцыя, ніхто яго ахоўваць не будзе, а калі хто і знішчыць, адказнасці не панясе, бо злачынцу шукаць не будуць*".

Бадай, з гэтага вынікала, што й сам кірунак не мае перспектывы; мне далі зразумець, што інтэрв'ю ў газеце –-гэта ружовая прапаганда. Сёння ў Гродзенскай вобласці 167 помнікаў прыроды, — маўляў, па горла, таму не спадзявайцеся, што вашы аб'екты будуць ушанаваны ахоўным статусам.

З такім станам спраў мне даволі сутыкнуцца, аб чым і папярэджваю тых, хто збіраецца несці свае скарбы ў бюракратычнае балота. Можа, пакуль правіць гэтая ўлада, варта ўстрымацца, каб не здарылася горшага – а менавіта, каб ваш неруш, нічым не аслонены, не стаўся ахвярай уласнай каштоўнасці. Бо сілы, якая здольная абараніць прыродны рарытэт, я сёння не бачу, апроч хіба боскае ды з боку добрых людзей, якія ў душы не згубілі святое, берагуць роднае. З практыкі я ведаю пра такія выпадкі, калі аб'ект – сапраўдны неруш і мае каштоўнасць вялікую, а ведаюць пра яго адзінкі. Таму я зноў кажу, гледзячы на сучасныя тэмпы ўходання прыродных багацццяў: ахоўвайце, рабіце хоць штонебудзь, каб зберагчы апошняе, але часам, магчыма, так і трэба зрабіць – схаваць "аб'ект" не за папяровай агароджай, а за натуральнай ( калі яна ёсць). І трэба чакаць перамен, спадзявацца, што яны не за гарамі – тыя ж выбары, вяртанне дэмакратычных прынцыпаў грамадскага ўладкавання.

Цалкам падзяляю клопат газеты не дапусціць падману чытачоў, папярэдзіць аб небяспечных тэндэнцыях. Раблю свой унёсак і хаваю надзею, што гэты ліст дапаможа газеце прымножыць шчырае слова праўды, слова ў абарону Радзімы і нашай прыроды. Калі прачытаў лісты аднадумцаў у папярэднім выпуску, з радасцю ўзяўся за пяро і сам. Увогуле, газета робіцца так, што раўнадушным яна можа пакінуць хіба што раўнадушнага да прыроды і Бацькаўшчыны. Думаю, усе, хто выпісвае і чытае "Белавежскую пушчу", удзячныя стваральнікам за кожны зладжаны выпуск.

Да ліста прыкладаю некалькі фотаздымкаў, на іх – тыя самыя дубы, якія я прапаную зрабіць помнікамі прыроды. Іх, дарэчы, бачылі і ў камітэце, і ў раённай інспекцыі. Магчыма, прыдадуцца ў "Коле"?

**Яраслаў Пятроўскі,**
студэнт 2-га курса Гродзенскага універсітэта

***Для стасункаў:***
Даватара, 27-43, Гродна, 230012

*"Сцяну маўчання можна прабіць, калі слова ў дыскусіі возьме кожны зацікаўлены"*

Мяркую, адна справа сказаць пра газету пры сустрэчы з рэдактарам (што я рабіла не раз) і зусім іншая – выказацца публічна. Пагатоў, калі прапануецца анкета.

Першае знаёмства, памятаю, прынесла мне змяшаныя пачуцці. З-за асаблівасці вёрсткі, падачы матэрыялаў, выразна акцэнтаванай беларускай мовы газета здалася занадта "гатовым прадуктам".Поўная нечаканасць.Тым часам, знешні бок дапаўняўся і ўнутраным зместам усіх шаснаццаці ( ! ) старонак. Матэрыялы былі густоўна прапрацаваныя, закончаныя ў плане, так бы мовіць, літаратурна-эстэтычнага ўспрымання. Большасць тэкстаў прапаноўвалася на роздум, на шчыры кантакт. Усё гэта крыху й насцярожвала: а ці будзе такое выданне ўспрымацца шырокім колам чытачоў? Ці не "элітарнае" яно?

Пасля першых сустрэч прайшло ўжо даволі часу, але газета такой і засталася, можа, хіба што больш дынамічнай, з запалам крытычнасці ды адчуваннем болю да новых і новых страт. Яна паранейшаму прыродалюбная ("прыроду застаецца толькі любіць..."), хоць пры гэтым выразна бачыцца ў газеце апазіцыйнасць кірункаў, поўная адсутнасць кан`юнктурнага згодніцтва з так званымі традыцыямі прыродакарыстання.

Такою газета мне падабаецца.

Што можна палепшыць? На мой погляд, бракуе інфармацыйнага матэрыялу пра беларускіх "зялёных". Вядома, найперш самі грамадскія арганізацыі і суполкі павінны рупіцца, рэкламаваць, прапагандаваць свае праграмы праз газету, шукаць аднадумцаў, магчымасці аб`яднацца. Але тым часам і шматлікія чытачы сказалі б дзякуй, калі б такая інфармацыя час ад часу з`яўлялася на старонках (кантактныя адрасы, сферы зацікаўленасці, бліжэйшыя акцыі, прапановы аб супрацоўніцтве).

Увогуле, ахова прыроды вельмі слаба адлюстроўваецца ў сродках масавай інфармацыі Беларусі (гэтай тэме, дарэчы, быў прысвечаны артыкул "Дзе той крык, што жыве Беларусь?", БП, №1, 1998). Нельга не пагадзіцца з высновамі аўтара, асабліва ў дачыненні інфармацыйнай палітыкі Мінпрыроды. Аднак добрых змен застаецца адно чакаць. А пакуль... чакаем чарговых

## SUMMARY

***The writers included in our readers' letters section are a student of Grodno University, a researcher at Prypiac National Park, and two schoolgirls from Minsk. They write that although Belarus' biological heritage is under threat, only the most devoted and persistent people gain the right to defend nature.***

выпускаў адзінай незалежнай экалагічнай газеты. Яе *"крык, што жыве Беларусь"* робіцца ўсё больш выразнейшы, як доказ таго, што сцяну маўчання можна прабіць. Цяпер вельмі важна, каб у газеты было як мага больш аўтараў — са сваім поглядам, смелай думкай, жаданнем узяць слова ў дыскусіі, выказацца.

Цешу сябе надзеяй, што газета, захоўваючы набытае, будзе развівацца і згуртоўваць усіх, хто імкнецца адстаяць і захаваць прыродна-культурныя каштоўнасці, біялагічную разнастайнасць краіны.

**Іна Зеніна,**
навуковы супрацоўнік
Нацыянальнага парка "Прыпяцкі"
***Для стасункаў***: вул. Лясная,д.7,к.1
г.п. Тураў Жыткавіцкага раёна
Гомельскай вобл., індэкс 247980

***Сфера зацікаўленасці***:
-праблемы асабліва ахоўных тэрыторый,
-экалагічная асвета сярод школьнікаў,
-пашырэнне экаінфармацыі сярод прафесіяналаў-эколагаў.

# Ідзе няўтольнае перарварэнне Прыроды ў чарговыя прыхамаці чалавека

Што наша жыццё? Бег па замкнёным коле: праца – дом, дом – праца. Адсюль – адвечныя скаргі на цяжар невырашальных праблем, дрэннае здароўе, нястачу сіл, штодзённыя дробязі. Рэдка хто задумваецца, што сілаў можна дабраць у стасунках з прыродай, ласкава дакранаючыся да яе, адчуваючы яе мяккую ўнутраную цеплыню. Мне вельмі спадабалася ідэя Джона Роскіна пра месца харастве прыроды ў жыцці чалавека ("БП", №4, 1998). Сапраўды, прырода – гэта і "школа, і храм для ўсяго чалавечага роду", і "найпрыдатныя ілюстрацыі летапісаў для вучонага", і "добрыя простыя ўрокі для працоўных", і "ціхія прытулкі для мысліцеляў"...

Мінулым летам я ўпершыню ўбачыла мора. Мы з сябрамі адпачывалі ў Балгарыі, і ў той час, як яны спяшаліся ў крамы, я карысталася хвілінай, каб паразмаўляць з сівымі хвалямі... Гэта было падобна да споведзі: зорнымі вечарамі ўсе мае таямніцы душы ліліся ў спачувальную ваду, і яна несла іх удалеч, беражліва хаваючы ад чужых вачэй... Даверлівае мора прымае ад людзей усё: думкі, пачуцці, а часам... паперу, пластмасу, ядахімікаты. Але і яно не хоча жыць у несправядлівасці, збіраць у параненай душы ўсё новыя і новыя здзекі. Аднойчы ноччу ўсхадзіўся шторм, і раніцай увесь бераг быў засланы смеццем, якое скідвалася ў хвалі абыякавымі і ачарсцвелымі. Мне падалося, што гэта быў крык жывой істоты аб дапамозе, пратэст. Вельмі слушна сказаў О.Леапольд, разважаючы над праблемай адпачынку сярод прыроды: *"Развіццё ўспрымання – вось адзіна праўдзівы творчы бок справы ў наладжванні такога адпачынку"* ( "БП", №5, 1998). І я згаджаюся з ім: палёт дзікай качкі ў ранішнім тумане, убачаны ўвачавідкі, дае куды больш асалоды і радасці, чым выгляд пустой абалонкі, пазбаўленай іскрынкі жыцця, на пісьмовым стале.

Мяне здзіўляе, нават палохае, як у рэальным жыцці чалавек робіць тое ці іншае пад свой апетыт, сабе на карысць, не задумваючыся пра хараство, якое ён губіць і якога ўжо не пабачаць нашчадкі. Вельмі насцярожвае, што чарга дайшла нават да запаведнікаў, якія павінны ахоўвацца, а не "асвойвацца".

Маім бацькам (дый мне самой) падабаецца прыгадваць малюнкі з майго маленства; гэтыя ўспаміны, быццам масточкі, злучаюць два берагі: дзяцінства і сталасць. Часам вельмі прыемна і цікава, забыўшыся на сённяшні дзень, апынуцца на тым, другім беразе. І я з сумам пасведчу: масткоў застаецца ўсё менш і менш. Знікаюць дрэвы, краявіды, а на іх месцы з'яўляюцца бульдозеры, краны. Ідзе няўтольнае перарварэнне жывой прыроды ў чарговыя прыхамаці чалавека. Няўжо гэтак будзе бясконца? І што ў рэшце рэшт застанецца? Нам заўсёды тлумачаць, што інакш немагчыма, што так *прыходзіцца* рабіць. Гэта значыць, рабіць на згубу, на ліквідацыю, на страту жывой прыроды.

Так, Прырода – жывая, яна мае патрэбу ў нашай цеплыні і дабрыні, і нам застаецца "толькі любіць, толькі ахоўваць" яе.

Замест сваёй фатаграфіі (на фоне прыроды – умова рэдакцыі), якой не знайшлося ў сямейным альбоме, пасылаю свой малюнак – як прывітанне сваім аднадумцам.



**Таццяна Купрыянчык,**
вучаніца
***Для стасункаў***: праспект газеты "Известия", д.102, кв.164, Мінск.

***Сфера зацікаўленасці***:
-экалагічная журналістыка,
-ілюстраванне прыродалюбных выданняў.



*Кажуць, каб лепш пачувацца на роднай зямлі, трэба хоць бы ведаць, што ў родных тваіх лясах, сярод родных долаў-палёў, па берагах рэк тваёй Маці-Айчыны стаяць, бы на варце, такія дубы — як мары-легенды, як вежы-асілкі. А скарыстаўшыся шчаслівым выпадкам — убачыць гэтую велічную красу, змераць сваім вокам моц-вышыню ды пяшчотна дакрануцца далоняю да кары — гэта ўжо, лічы, рэдкасны рытуал, калі ты пакідаеш каля падножжа дрэваў частку душы і сэрца, а з сабою забіраеш Айчыну.*

*Фота: Валеры Сібрыкаў (Мінск)*

# "Хто ўважліва прачытае Вашу газету, той прачнецца і зразумее..."

Добры дзень, паважаныя стваральнікі "Белавежскай пушчы"!

Мяне завуць Аня, я вучуся ў шостым класе. Вашу газету чытала толькі адзін раз,але яна мне вельмі спадабалася. Зараз пра навакольнае асяроддзе, нашу родную прыроду, бадай, мала хто думае. А калі з кім загаворыш, дык людзі не прыахвочваюцца, бо гэта ім нецікава, больш маўчаць. А некаторыя скажуць: "Якая прырода! Самім жыць цяжка, а тут яшчэ думай пра кожнае дрэва ці звера...". Мяркую, хто ўважліва прачытае Вашу газету, абавязкова прачнецца, зразумее іншы сэнс: што й жыць нам цяжка таму, што не клапоцімся пра навакольнае, роднае, і жыццёва неабходнае — лес, поле, луг, ваду і паветра.

Прырода – крыніца жыцця і яе трэба берагчы і шанаваць.

Вашай газеце я прысвяціла гэты верш.

*Я хацела цябе прывітаць, Беларусь,*
*вечнымі словамі "Добры дзень!".*
*Але бачу, што ты ў няволі*
*І лепшага дня яшчэ трэба чакаць.*

*Я хацела пачуць жаўрука*
*ў сінім ранішнім небе*
*і сказаць яму: "Добры дзень!".*
*Але птах не азваўся.*

*Я хацела знайсці васілёк*
*і таксама яго прывітаць: "Добры дзень!".*
*"Гэты дзень схаваў ад нас сонца",—*
*не ўзрадаваўся васілёк.*

*Я хацела наведаць зуброў*
*у дрымучых зялёных барах.*
*Але мой "Добры дзень!"*
*залёг у паваленых соснах.*

*Нарэшце, я звярнулася*
*да чалавека.*
*Ён цяжка ўздыхнуў і параіў*
*прыйсці ў лепшы час...*

*Як жа цябе прывітаць, Беларусь,*
*Калі ДОБРЫ ДЗЕНЬ да нас*
*так запазніўся?*

Жадаю Вашай газеце верных зацікаўленых чытачоў, добрых дзён і ўсяго самага лепшага.

***Ганна Белагурцава,***
6 клас,
г. Мінск

# Абвестка

Грамадская экалагічная станцыя "Ольса" запрашае ахвотных для ўдзелу ў тыднёвай экспедыцыі "Дзеці зямлі", якая мае пачацца 26 чэрвеня.

***Задача экспедыцыі:***
маніторынг выканання Закона *"Аб асабліва ахоўных тэрыторыях і аб`ектах"* у Бабруйскім рэгіёне і захавання ахоўнага рэжыму помнікаў прыроды. Сабраныя матэрыялы будуць скарыстаныя для парламенцкіх слуханняў і адкрытага дыялогу грамадскай арганізацыі з адпаведнымі дзяржаўнымі органамі.

***Для стасункаў:***
*ЭС "Ольса", вул. Дзяржынскага, 50*
*г. Бабруйск, індэкс 213826*
*тэл. (02251) 73665 Святлана Максімовіч (да 17.000)*
*(02251) 27004 Ігар Куталоўскі (пасля 18.00)*
*(02251) 43747 Уладзімір Шчэрбіч (пасля 18.00)*
*факс (0225) 580554 "Ольса"*



# Белавежская пушча: каляндар прыроды

*Віктар Бахараў,*
біёлаг

***Са** шчымлівым пачуццём успамінаю свае лепшыя гады жыцця і працы ў Белавежскай пушчы. Мне захацелася праз каляндар прыроды далучыць чытачоў газеты да маленькіх фрагментаў і сведчанняў, якія найбольш уразілі і ўзрушылі мяне, засталіся ў памяці, час ад часу спанукаючы ўзяцца за асадку і штокольвек перадаць на словах.*

## Травень

Мудрэц, аднак, не памыляўся, калі казаў: каб спасцігнуць усю цудоўную існасць чаго-небудзь, трэба зведаць горыч гэтае страты. І ўжо затым, калі страчанае зноў знаходзіш, зусім інакш пачынаеш яго разумець і цаніць. Мы сустрэліся на майскія святы, і я, па сваёй даўняй звычцы, павёў сябра з жонкай пака-заць Музей прыроды. Перад мостам праз раку Лясная Правая ў кустах пачулі голас салоўкі. Была яшчэ толькі проба голасу, але ў выдатнага спевака і гэта выходзіла на чароўную песню. Я звыкла прашпацыраваў далей, а сябры спыніліся і замёрлі. Азірнуўшыся, я зразумеў, што душой пачынаю чарсцвець: мае сябры с т а я л і зачараваныя, не маючы сілы крануцца далей. Яны слухалі. Наважыў нешта сказаць, але Сяржук падаў знак, каб я таксама не краталўся з месца. І тут пачуліся знакамітыя трэлі, гучнае задушэўнае шчоўканне з далікатным, яшчэ больш пяшчотным працягам. На памяць прыйшлі вядомыя радкі: “Не трэба нам бераг турэцкі...” Рэч у тым яшчэ, што Сяргей завітаў сюды пасля трохгадовага знаходжання ў Лівіі. Яго лёгка было зразумець. І заадно ўразіцца думкай: пасля расліннага бяння ды птушынага рознакшталту Паўночнае Афрыкі мілей за нашага салоўку нічога, бадай, няма.

Травень – гэта не толькі песня салоўкі, але й белая квецень чаромхі, калі ўсё дрэва як бы прымярае цудоўны ўбор маладой. Глянеш – рука адмаўляецца ламаць галінкі чыстага хараства на звычайны букет. Бо ў рэшце рэшт, што такое букет сарваных кветак? — гэта прыгожа ў крышталёвай вазе на стале, але ж гэта, аднак, і канаючае жыццё. Часам карысна перагледзець агульнапрынятую традыцыю і наколькі магчыма вырашыць для сябе, што традыцыя можа мець іншы выгляд і змест.

Цёплыя ціхія вечары – адзін з доўгачаканых дарункаў травеня. Калі яны першыя, асалода надзвычай выразная. І радасць, сапраўдны вясновы настрой. У такі час на сходзе сонца можна бачыць, як у паветры таўкуцца слупкі камароў. Гэтыя дзівосныя мошкі збіраюцца ў невялікія раі і пакуль не сцямнее таўкуцца над адным і тым жа месцам, якое ім прыглянулася. Людзі заўважылі, што гэта на цёплае надвор'е.

Дарэчы ўспомніць яшчэ адну прыкмету гэтага часу. Калі зязюля кувае на “голы” (без лісця) лес – зважай, што год будзе галодны. Відаць, у Белавежскай пушчы жывуць адны “шчаслівыя зязюлі”, бо ніколі не чуў вяшчунню у голым лесе.

Нерастуе рыба. Напрыклад, карась — аблюбенец вясковай малечы. Калі вясна цёплая, ідзе дружны нераст акуня. Аднойчы, калі надарыўся цёплы пагодлівы дзень, я з дзецьмі выправіўся за вальеры на Плянту “збіраць рыбак”. Дачка і сын, падахвочаныя маім абяцаннем, затоена чакалі самага галоўнага моманту. І я не падмануў. З рэчкі Лясная Правая ўверх па ручаіне перамяшчаліся яркія паласатыя акунькі. Час ад часу яны палохаліся нас, хаваючыся пад камяні. Я зайшоў у ручай і неўзабаве выкінуў на бераг першую драбязу. Далей пачалося. Дзеці адно паспявалі за мной. А я, налаўчыўшыся, выкідваў з вады яркіх трапяткіх паласацікаў. Паўгадзіны “рыбалкі” – і на юшку хапіла з лішкам.

Увогуле, пра рыбу ў Пушчы расказваюць шмат і, бывае, вельмі цікава. Зразумела, лепш паслухаць заўзятых рыбакоў, сярод якіх, дарэчы, трапляюцца і рыбачкі. Гарачых ахвотнікаў даводзілася сустракаць паміж мінскіх кіроўцаў аўтобусных рэйсаў; па нейчай падказцы каторыя з іх пачалі браць з сабою спінінг, каб у 50-ці метрах ад канцавога прыпынку як мага пакідаць яго ў Лясную Праву. І трэба ж – аднойчы я быў сведкам, як адзін такі “рэйсавы” выцягнуў на мост 4-кілёвага шчупака. Вось дзе рыбацкае шчасце!

Травень – час выкормлівання ваўчанят у логаве. Успамінаю, як наш супрацоўнік А. Буйневіч выпільноўваў ваўчыцу. Знайшлі логава, але малых не чапалі. Зручнае месца Аляксей выбраў побач з воўчай сцяжынай. Як след замаскаваўся, прыгатаваў ружжо, каб ніводным лішнім рухам не сапсаваць справу, і пачаў чакаць. Дарожка ў ельніку ўжо ледзь праглядвалася. Ноч. Зрабілася цёмна. На шэрым небе пачалі выразніцца вярхі дробна-густых зараснікаў. Узышла поўня, усталявалася поўная цішыня. А ваўчыца – істота чуйная, схоплівае ў цемені нават нязначны рух рукі. Нарэшце лясны гушчар выдаў дробны знак набліжэння звера. Аляксей прыпадняў ружжо, але ўжо было позна. Ваўчыца апярэдзіла паляўнічага і вомегам пакінула месца небяспекі. На другую і трэцюю ноч яна ўжо сюды не прыходзіла. Неяк днём перад Музеем прыроды я гутарыў з маскоўскім журналістам, і да нас падышоў А.Буйневіч. Ён трымаў карзіну з трыма лабастымі ваўчанятамі. Я паказаў карэспандэнту, але ён не паверыў, думаў, што мы жартуем. Сапраўды, малыя ваўчаняты вельмі падобныя на шчанюкоў аўчаркі.

З пушчанскім ваўком у мяне была адна сустрэча, якая добра помніцца. Прыканца траўня я паехаў на ўлік рэптылій у паўночную частку Пушчы. У 10 раніцы на квартальнай прасецы заўважыў за сотню метраў каля кустоў сабаку з настаўленымі вушамі. Свіснуў. Сабака нечакана хутка пераскочыў прасеку і знік у хмызах. Толькі пасля я зразумеў, што ў гэтага “сабакі” быў не сабачы хвост: упарта звісаў уніз.

Тымчасам у пушчанскіх звяроў і звяркоў – народзіны патомства. Свае адвечныя бацькоўскія клопаты спраўляюць выдры, ласкі, краты. У ласёў, аленяў, казуль таксама папаўненне ў сям'і. Немаўляты часам трапляюць да чалавека, які падахвочваецца даглядзець і выхаваць патомнага ляснога жыхара. Гэта марная спроба. Жывёліна, у рэшце рэшт, гіне. Браць малое трэба хіба што ў выпадку, калі ягоная маці загінула.

Лёс выхаванца, на жаль, вельмі рэдка здараецца ўдалым. Памятаю, як з пагранзаставы ў вальеры прывезлі ласянятка і як любоўна заапекаваліся ім Павел Кірылавіч Міхалевіч з ягонаю Нінай Іванаўнай. Было цікава і часам радасна-весела слухаць гэтых немаладых ужо людзей, як ласяня чакае іх, як сустракае ды як выказвае на мове пяшчотных гукаў сваю ўдзячную радасць.

Жывёла расла, мужнела і ... вучыла сваіх выхавацеляў выжыванню ў лесе: прыкладам, падказвала, якія з ці-кавых грыбоў ядомыя, пра што Павел Кірылавіч, як знаўца-міко-лаг, раней мог і не здагадвацца. Людзі здзіўляліся, які ў лася тонкі адменны слых, які надзвычайны ягоны нюх. На жаль, лось неўзабаве захварэў ды так і не адолеў немач.

Надзіва цікавыя ў траўні паводзіны казулі. Самцы ахоўваюць свае дзялянкі. Неяк я ступіў на адну такую дзялянку і пачуў брахучы голас козліка, які мяне зацята праганяў. Дарэчы, казуля не такая бяскрыўдная, як гэта можа здавацца. Аднойчы, расказваюць, невялікі козлік збіў з ног у вальерах вяскоўца, бадай, самага вялікага й цяжкага, калі той хацеў скасіць каля агароджы траву. Лёгкім ударам пад калені ён прымусіў яго ўкленчыць, а затым і паваліў.

Вядома ж, травень – гэта цёплы, пяшчотны "сляпы" дождж з першаю навальніцай. Ён яшчэ нікога не заганяе пад дах, а толькі падае знак, што ён ёсць, і вогненная павозка з Іллём-прарокам будзе вазіцца па небе ўсё лета. Лёгкі дождж абмывае дахі й сцены дамоў. Яны, быццам падноўленыя, пачынаюць ззяць смалістым бярвеннем з карычняватаю пазалотай.

Прыгрэты пагорак пачынае дыміцца. Лета прыйшло.



* канюк

*Гэтыя здымкі можна справядліва аднесці да творчае спадчыны* ***Уладзіміра Дацкевіча****, патомнага пушчанца, навукоўца-арнітолага, шчырага й дасведчанага інтэрпрэтатара ведаў пра запаведную Белавежскую пушчу. Частку сваіх прац -- фатаграфічных, літаратурна-публіцыстычных -- Уладзімір Апанасавіч перадаў рэдакцыі нашай газеты з пажаданнем плённага скарыстання. З удзячнасцю да справы, якую Уладзімір Дацкевіч рабіў і працягвае рабіць, змяшчаем два ягоныя здымкі. Пры гэтым павінны заўважыць: Уладзімір Апанасавіч як мала хто імкнецца спалучаць паэтызацыю Пушчы з выкрыццём трывожна-небяспечных тэндэнцый у яе сучасным шматаблічным жыцці.*



* у Пушчы

## Чэрвень

Гэта напраўду сімфонія лета, як любіў казаць Сцяпан Віктаравіч Шостак – пушчанец, натура светлая і паэтычная. Чэрвень пушчанскай прыроды нібы абаймае мяне мноствам адметна-цудоўных, п'янкіх водараў-пахаў. І ўсюды кветкі – каліны, рабіны... Гудзенне пчолаў. Яркія чыстыя фарбы. Часам самой расліны й не відаць, але чуваць пах яе квецені. А вось і казка – справа перад шлагбаумам Музея прыроды ў сажалцы распусцілася лілея. Дзякуй чалавеку, які ў гэтым куточку Пушчы размясціў такі казачны сюжэт.

Зрэшты, казка толькі пачынаецца, бо гэта яшчэ пачатак лета. З кожным днём усё больш рэальна адчуваеш сябе часткай казачнай прыроды. Аднойчы рана-ранеўка ехаў праз лес на ровары. Спусціўшыся з горкі, выкаціў на невялічкую паляну з дзялянкай высокай травы. Нечакана з-пад колаў выскачыла нешта шарае і невялікае, але неяк не па-заечаму кінулася ў кусты. Потым я ўцяміў, што з нагрэтай мясцінкі сагнаў маладое рысяня. Мне ўдалося заўважыць кароткі хвост і вушы з кутасікамі. Ровар з горкі скаціўся ціха і спудзіў лясное кацяня, што задрамала на ранішнім сонейку.

Праз тыдзень адбылася не менш цікавая сустрэча з лісянём, што бегла праз высокую траву мне.. насустрач. Ад нечаканасці я падумаў, што яно хворае, але пасля разважыў інакш: у жыцці неасвойтанага лісяняці гэта была першая сустрэча з чалавекам.

У чэрвені спее лугавая трава, а крыху пазней пачынаецца першы ўкос.

Акурат гэтым часам адбываецца масавы ацёл у зуброў. Вядома, да зуброў у Пушчы ставяцца асаблі-ва паважліва. Гэта разумная, магутная жывёліна; разгневанага зубра не здольная стрымаць ніякая клетка з дрэва. Зубр высакародны. Неяк у Пушчы мяне за 10 метраў ад звера спыніла Люся Кот, што хадзіла са мною на ўлікі. За лісцем я не заўважыў асілка, і ён, відаць, здзівіўся майму нахабству, калі я рашуча кіраваў да яго. І толькі ціхі Люсін покліч спыніў мяне ад няшчаснага кроку. У Пушчы жывуць егеры, якія мелі ад зубра балючыя знакі. Але бывалі й шчаслівыя выпадкі. Вечарам на рагу сенакосаў Дакудава скасілі траву. Рана пасля расы жанчыны пайшлі разбіваць пракосы. У кустах іх сустрэла зубрыца, што ў гэтую ж ноч прывяла патомства. На жанчыну, што ішла з граблямі і была ўжо досыць блізка, зубрыца кінулася з усёй рашучасцю гэтага звера. Бегчы на ўцёкі па роўным лузе не было сэнсу. Жанчына, моцна сціскаючы граблі рукамі, галасна-пранізліва закрычала. Зубрыца раптоўна спынілася. І жанчына, здаецца, зразумела сітуацыю, закрычала яшчэ выразней. Зубрыца фыркнула й падалася да сваіх зубранятаў.

Відаць, шчасліваму канцу тут паспрыялі нестандартныя паводзіны чалавека.

Пачынаецца сезон турысцкіх экскурсій. Старэйшыя ўспамінаюць, як калісьці ў вальерах жыў алень Борка. Вечарам ці раніцай ён лёгка перасягаў тады яшчэ драўляную загарадзь і як мага кіраваў на памыйку рэстарацыі, дзе пракідалася такое-сякое смакоцце. Борка на гэта быў ласы.

Аднаго разу намеснік дырэктара, прымаючы делегацыю з Савета Міністраў, паказваў гасцям вальеры. Борка – тук як тут. Намеснік не прапусціў пахваліцца, маўляў, Пушча ёсць пушча, чалавек тут сябруе з прыродай... І паклікаў Борку. Алень чакаў, вядома ж , ласунку, але яго яму не далі. Борка не адставаў. На чапляння звера самаўпэўнены экскурсавод адказаў з недазволенай лёгкасцю: нямоцна выцяў Борку па носе. Борка пакрыўдзіўся і падчапіў свайго злосніка на рогі, скінуўшы на зямлю. Маўляў, звера не на словах, а на справе паважаць трэба.

Неяк у адзін пагодлівы дзень я вывучаў рыб ракі Нараўкі. Перавважна гэта быў гарчак – характэрная рыба для густа зараслага рэчышча. Нечакана з захаду паднялася вялізная чорная хмара. Апынуцца на ветры да ніткі прамоклым мне аніяк не жадалася. Я хуценька распрануўся, а вопратку схаваў пад кавалкам поліэтылену. Праз колькі хвілін на мяне абрынуўся лівень. Спорны, але кароткі, як гэта й бывае ў чэрвені. Дождж скончыўся і заззяла сонейка. Я пераможна глянуў хмары ўслед і... апрануўся ў сухое адзенне. У дарозе падумаў — дык гэта ж маё "хрышчэнне"...

Сонейка хіліць на вечар. Песня цвыркуноў усё больш выразная. Гудліва азваўся жук-насарог. На лясных прасеках пачынаюць паветраныя паляванні стракозы, а з прыцемкамі — і кажаны. Іхні палёт у чэрвені грузнавата цяжкі: на грудзях яны часам нясуць немаўлят. Прыканцы дня падае свой адметны голас дзяркач. З лугоў перапёлка настойліва раіць усім "спаць пара, спаць пара". А начны канцэрт распачынае салавей.

Аднак гісторыя Пушчы – гэта не адно лясныя тайніцы, але й праблема людзей. 22 чэрвеня 1941 года – дата, якая і на Пушчу лягла ценем вялікай чалавечай трагедыі. Да гэтага часу вялікі лес хавае магілы вывезеных сюды і тут расстраляных. Я сустракаўся з леснікамі, якія бралі ўдзел ў зімовых паляваннях Герынга. Знаёміўся з планам ператварэння Пушчы ў пансіянат для адпачынку фюрэр-асаў... Але пра гэта мы ўспомнім пазней.

А пакуль з замілаваннем акінем родныя краявіды ў аздабленні перадлетаўя і ўспомнім пашанотным словам усіх ваяроў, якія ў розныя гады і стагоддзі ратавалі нашу Бацькаўшчыну-айчыну.


## SUMMARY

***Well-known for his interpretations, academic environmentalist Viktar Bacharau recounts the life of a forest in during the spring-summer period (May-June). His observations are picturesque and steeped in feeling.***

Дэмас

## Нас 10.037.213

За 10 апошніх гадоў, параўнальна з перапісным 1989-м, насельніцтва Беларусі скарацілася на 114.587 чалавек: мужчынскага стала менш на 28.199, жаночага - на 86.388. Гэтыя звесткі падалі ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу пасля першай папярэдняй апрацоўкі матэрыялаў перапісу-1999. На 314 тыс. павялічылася колькасць гарадскіх жыхароў, аднак на 429 тыс. паменела сельскіх.



Усіх нас, паводле лютаўскага перапісу, 10.037.213. Цікава, што будзе праз наступны дзесятак гадоў: **звыш** дзесяці мільёнаў, як цяпер, ці... **каля**? *Крыніца: Агенцтва БелаПАН, зялёнае агенцтва "Неруш-прэс".*

** вясковая вуліца ў Мядзельскім раёне амаль абязлюднела: старыя жыхары паўміралі, а моладзь з'ехала на гарадскі асфальт.*

*Фота: Аляксандр Гутоўскі.*

Альтэрнатыва

## З красавіка да "бабінага лета"

На даху малочнатаварнай фермы саўгаса "Чырвонакастрычніцкі", што ў Буда-Кашалёўскім раёне, аграэнергетыкі паставілі геліявую батарэю, здольную награваць ваду да 70 градусаў. Яна будзе, як мяркуюць спецыялісты, даваць значную эканомію электраэнергіі прыкладна з красавіка да "бабінага лета". *Крыніца: БелТА, зялёнае агенцтва "Неруш-прэс".*

**будзе сонца, будзе й энергія!*





**XXI стагоддзе, паводле прагнозаў, запатрабуе энергію, якую ў свеце сёння маюць за ўзнаўляльную і экалагічна чыстую; гэты вятрак яшчэ стаяў прыканцы 70-х у вёсцы Кіркаўшчына, што на Нясвіжчыне.*

*Фота: Вячаслаў Дубінка*

Помнікі

## Вусініца ў ролі збавіцелькі

Бадай, сярод незвычайных помнікаў, што ёсць на зямлі, гэты – ці не адзіны ў свеце. На п'едэстале апынулася вусініца матылька. Гэтакім чынам удзячныя фермеры Квінсленда (Аўстралія) надалі гонару сваёй неспадзяванай ратаўніцы-збавіцельцы.

Рэч у тым, што прыканцы XVIII ст. адзін з перасяленцаў прывёз на мацярык мексіканскі кактус апунцыю. Каб не застацца ў самоце, кактус пачаў хутка разрастацца і праз колькі гадоў апанаваў абшар на 4 мільёны гектараў. Прайшло яшчэ трохі часу і незвычайны прышэлец, не маючы перашкодаў на сваёй дарозе, заняў ажно 20 млн. гектараў. І ніхто яму не мог даць рады. Ролю героя-збаўцы ўзяў на сябе паўднёва-амерыканскі матыль кактусавы агменнік. Яго вусініцы здолелі стрымаць нашэсце апунцыі. Нарэшце, расліна пачала здаваць пазіцыіі, ландшафт пакрысе вяртаў сваё аблічча. Як толькі агменнік скончыў працу, ён не прымусіў людзей шукаць раду і на яго – знік "з месца здарэння", як і належыць сапраўднаму герою, адно што – пакінуў пра сябе ўдзячную памяць. *Крыніца: зялёнае агенцтва "Неруш-прэс".*

Дзень Зямлі

## Алея-сад ад фірмы... "Тэхнасат"?

Школьная і студэнцкая моладзь з Мінска і Барысава, сабраўшыся разам у сталіцы на сумесную акцыю "Галасы маладых за здаровы лад жыцця", абмеркавалі шмат ідэй, прапаноў, экспромтаў, над якімі самі хацелі б і працаваць – карпець, мудраваць, выштукоўваць.

Прыемна, што сярод прапанаваных праектаў было нямала й экалагічных, прычым не разлічаных на дарагі бюджэт, а вельмі дасціпных і цалкам эканамічных. Скажам, каму раней прыходзіла ў галаву думка, каб у Мінску закласці алею-сад, дзе кожная фірма мела б магчымасць пасадзіць сваё дрэва ці аздобіць свой зялёны куток, зрабіць яго імянным і адметным, забяспечыць дагляд і г. д. Ідэя? Ды яшчэ якая файная! З аднаго боку, рэклама для фірмы, з другога – новае аблічча сталіцы, яе лёгкія. *Крыніца: інфармацыйны цэнтр Лошыцкага парка.*

***Інфармацыйны цэнтр Лошыцкага парка віншуе ўсіх прыхільнікаў зялёнай ідэі на Беларусі з Сусветным днём аховы навакольнага асяроддзя.***

# Злучым памкненні з усёй планетай

*Мабыць, шмат хто яшчэ не ведае, што* ***22 красавіка*** *адзначаецца экалагічнае свята на ўсёй планеце. У гэты дзень, які UNESCO абвясціла Днём Зямлі, рыдлёўку і кволае дрэўца бяруць у рукі людзі розных узростаў, схільнасцяў, веравызнанняў. Іх аб'ядноўвае жаданне паспрыяць аздараўленню прыродных асяродкаў, пасадзіць дрэва, пакінуць добры след на зямлі.*

*Гэты раз сябры рэгіянальнага цэнтра экалагічнага выхавання дзяцей і падлеткаў "Зялёная Дуброва" (яны ж вучні Сырмежскай сярэдняй школы Мядзельскага раёна) скіравалі свой клопат перш-наперш на лес, лясныя экасістэмы. Сённяшні стан апошніх выклікае ў нас вялікую трывогу. А лясы, як вядома, выконваюць шэраг функцый: вода- і глебаахоўную, кліматарэгуляцыйную, асяроддзеўтваральную. Аслабляюць сілу ветру, рэгулююць ток вясновай вады і тым самым ахоўваюць глебу ад эрозіі. Лес — найбагацейшы асяродак жыцця, дзе адвеку сялібавалі жывёлы й разрасталіся расліны, дзе знаходзіў прытулак і чалавек, маючы з лесу ці не ўсё неабходнае.*

*Чым сёння можна дапамагчы аслабленым лясным экасістэмам? Найбольш верагодна — захадамі лесааднаўлення. У рамках Тыдня зямлі — 16 і 17 красавіка — вучні 5-11 класаў, а з імі й настаўнікі Сырмежскай СШ садзілі лес у мясцовым Сырмежскім лясніцтве, паблізу возера Нарач. На 10-гектарнай дзялянцы маюць прыняцца больш за 70 тысячаў пасадажаных сосенак, елачак ды бярозак.*

*Ведаю з досведу: колькі б не казаў вучням, што трэба захоўваць і шанаваць прыроду, гэта не дасягае належнага выніку — ідэя застаецца абстрактнай, не робіцца звычкаю ці патрэбай. Іншая справа, калі даць дзецям магчымасць сваімі рукамі нешта зрабіць на карысць прыродзе. Мае апошнія назіранні толькі пацвердзілі, што рацыя менавіта ў гэтым.*

*Праграма Тыдня была насычанай і разнастайнай: конкурсы, віктарыны, выставы. Усе ўдзельнікі акцыі — дарослыя і дзеці — горача прыахвоціліся дапамагаць прыродзе ўвесь год і як мага рыхтавацца да наступнага красавіка.*

*Таму хачу зрабіць прапанову ўсім, хто чытае зараз газету "Белавежская пушча": давайце разам памяркуем, як лепш падрыхтавацца да* ***Дня Зямлі-2000****. Зразумела,гэты Дзень мусіць быць шмат чым непадобным на іншыя. А калі падобным, то чым найперш? Мяркую, не лішне ўжо сёння зрабіць пэўныя арганізацыйныя захады,каб Дзень Зямлі-2000 стаўся моцнай прыродаахоўнай акцыяй на Беларусі.*

***Бернард Пакульніцкі,***
настаўнік,
в. Буйкі, Мядзельскі раён.



*Фота: Неруш-прэс*

## Дзень Зямлі-2000: Ваша думка?

Прапанова акурат да часу і, спадзяёмся, будзе ўхвальна прынятая чытацкаю аўдыторыяй. Так і запісваем: **Дзень зямлі-2000 павінен адбыцца як гучная прыродаахоўная акцыя.** Рэдакцыя адчыняе банк ідэй, куды будуць збягацца ручайкі вашых прапаноў, задумак, падказак.

Не марнуйце час, пішыце, тэлефануйце. Пастарайцеся адказаць на два пытанні: Як вы ўяўляеце асабісты ўдзел у Дні зямлі-2000? На якія прыродныя каштоўнасці (аб'екты) варта скіраваць намаганні грамадскасці Беларусі ў час акцыі **Дзень Зямлі-2000**: ваша думка?

Выхаванне

## Самая лепшая школьная практыка — гэта тая...

Пра неабходнасць турыстычна-краязнаўчага кампанента ў школьных навучальных праграмах і ягоную ролю ў экалагічным выхаванні гаворыцца ўсё часцей, асабліва гэтая тэма хвалюе цяпер, напярэдадні лета.

Як спалучыць традыцыйную летнюю практыку з працай "у прыродзе"? У гродзенскай школе-гімназіі №30 гэта ўдаецца: штогод на пачатку чэрвеня дзесяцікласнікі практыкуюць на ўлонках помніка прыроды "Румлёва". Кожная група мае



канкрэтнае заданне, доследны матэрыял апрацоўваецца ў лабараторыі. Завяршаецца практыка вандроўкай па родным краі з начлегамі, жыццём у палатцы, абедамі на вогнішчы. "*Наша школа,* — гаворыць выкладчык гімназіі, кандыдат навук Віктар Бахараў, — *не адна такая на Беларусі, дзе ладзяцца гэткія ж практыкі. У Мінску мой калега Руслан Навіцкі кожнае лета выпраўляецца ў падарожжа са сваімі выхаванцамі — вучнямі мінскай школы. Быў і конны паход, і паход на байдарках. Можна ўявіць, з якім запасам уражанняў вяртаюцца дамоў падлеткі. Мяркую, было б няблага, каб пра такія вандроўкі ўдзельнікі больш падрабязна дзяліліся на старонках газеты "Белавежская пушча"*.

Падказка педагога надзвычай слушная. Каб экскурсійна-турыстычны напрамак завалодаў у школьным выхаванні, варта як мага надаць яму ўвагі і папулярнасці. *Уласная інфармацыя.*

** першы дзень практыкі ў "Румлёве": пасля ўводзінаў і пытанняў да свайго кіраўніка хлопчыкі й дзяўчынкі ахвотна пазіруюць для здымка ў газету "Белавежская пушча".*

*Фота: Віктар Бахараў (Гродна)*

Экспертыза

## "Мытны" збор за аўтапраезд па ахоўных тэрыторыях не можа называцца экалагічным

3 траўня згодна з указам Прэзідэнта і ўрадавай пастановай пачаў дзейнічаць так званы экалагічны збор за праезд аўтатранспартных сродкаў па ахоўных тэрыторыях. У нацыянальных парках і Бярэзінскім запаведніку ўжо выстаўлены адмысловыя пасты, якія бяруць мытную плату ў залежнасці ад транспарту. Для жыхароў Беларусі яна роўная 0,2 - 0,5 мінімальнага заробку (разавы праезд), для іншаземцаў — 5 - 10 даляраў ЗША. Прадугледжаны сумы і за праезды на працягу года: 20-50 "мінімалак" для сваіх і 500 - 1000 $ — для замежнікаў. Аднак не ўсе будуць вымушаныя раскашэльвацца: напрыклад, "мыта" не трэба плаціць за правоз школьнікаў.

"*Хоць збор і называецца экалагічны, ёсць нямала падставаў для сумневу ў гэтым,* — сказаў адзін з экспертаў "БП", які працуе ў нацыянальным парку "Прыпяцкі". — *Бяру нават смеласць назваць яго антыэкалагічным, бо ўсё гэта пацягне за сабой цэлы ланцуг наступстваў, якія будуць адмоўна ўздзейнічаць на запаведныя тэрыторыі. Адзін прыклад: машына, якая робіць прыпынак, — дадатковая крыніца забруджвання паветра. Гэта аксіёма. Калі яна робіцца крыніцай прыбытку прыродаахоўнай установы – гэта ўжо чарговы сімптом гаспадарчай дзейнасці, што ў рэшце рэшт толькі псуе нашы нерушы"*.

Сабраныя сродкі, як запэўніваюць улады, будуць накіраваныя – увага, чытач, тваё цярпенне! — на правядзенне прыродаахоўных мерапрыемстваў, навуковай працы, на экалагічную асвету, развіццё інфраструктуры турызму і адпачынку, абсталяванне аўтастаянак і стварэнне сэрвіснага абслугоўвання... Мы не пашкадавалі месца на гэты пералік, каб засведчыць меркаванне, што сродкі, як заўсёды, пойдуць на... гаспадарчае асваенне запаведных тэрыторый. Навука, асвета, прыродаахоўныя мерапрыемствы застануцца далёка на другім плане, бо сёння рэй у запаведніках вядуць не яны. Арыенціры кіраўніцкіх адміністратараў, як мы не раз пераконваліся, зусім у іншым: як мага падпарадкаваць падахоўныя тэрыторыі сваім карыслівым мэтам, прасцей кажучы, валютаздабычы за кошт нацыянальнай прыроднай спадчыны.



Паводле прагнозаў экспертаў БП, адзін дзень у сярэднім будзе даваць ад 3 да 5 тысячаў умоўных адзінак агульнага "мытнага збору". Размеркавальны механізм спецрахунка ад збораў даўно знаёмы: усё вырашае адна рука – дырэктара нацыянальнага парка. Якія ў яго прыярытэты – таксама не сакрэт, бо прызначаюць на гэтыя пасады загартаваных на гаспадарцы, а не на прыродаахоўных акцыях. *Ул. інфармацыя.*

** вышка для адстрэлу як аргумент "інфраструктуры турызму і адпачынку" ў Нацыянальным парку "Прыпяцкі".*

*Фота: Міхал Козел (г.п. Тураў)*



*Фота: Аляксандр Гутоўскі*

Грынпіс

## Савецкія салдаты ведаюць, ці пранікаюць атрутныя рэчывы ў танк

Экалагічная арганізацыя "Грынпіс" абнародавала матэрыялы, якія ўпершыню дакументальна пацвярджаюць, што ў СССР праводзіліся выпрабаванні хімічнай зброі на людзях. Пра гэта яскрава сведчаць матэрыялы праверкі пракуратуры Прыволжскай ваеннай акругі, якія запрасіў Саратаўскі абласны суд Расіі. Менавіта ў гэтым судзе разглядаецца зыскавая заява аднаго з галоўных жывых сведак, маёра запаса Уладзіміра Пятрэнкі. У 1982 годзе, паводле загаду камандавання, на ім і ншых афіцэрах-дабраахвотніках выпрабоўвалі ўздзеянне нервова-паралітычных атрутных рэчываў. "Гарантыі бяспекі", якія пры гэтым даваліся, не вытрымлівалі нават некалькіх месяцаў, гаворыць Пятрэнка.

У рукі "зялёных" трапілі таксама дакументы, у якіх ідзе гаворка пра выпрабаванне хімічнай зброі на людзях яшчэ ў 30-я гады. Паводле справаздач таго часу доследы праводзіліся, каб "выявіць эксперыментальна, ці пранікаюць атрутныя рэчывы ў танк". *Крыніца: газета "Новые известия"*

Аўтограф

## Цёплыя камяні Стаўпеччыны

Адзін з бліжэйшых сваіх нумароў газета плануе прысвяціць біялагічным і культурным каштоўнасцям Стаўпеччыны. Тут, над Нёманам, шмат мясцін, пазначаных прыродалюбнай спадчынай слыннага земляка – Якуба Коласа. У налібоцкіх нерушах, куды яшчэ не зайшла знішчальная хваля "планава-разбуральнай" гаспадаркі, захавалася чыстая пацерка беларускага ўлоння – возера Кромань. Блізу Міра, дзе збягаюцца межы трох раёнаў — Стаўпецкага, Карэліцкага і Нясвіжскага, – застаўся пейзажны парк з унікальнымі пабудовамі 19 стагоддзя...

Рубрыкай "Аўтограф" могуць скарыстацца дзяржаўныя ўстановы і грамадскія арганізацыі, калектывы і прыватныя асобы, якія пажадаюць з карысцю заявіць пра сябе – папулярна і больш падрабязна падаць тую ці іншую мясціну, помнік прыроды, аб`ект культурнай спадчыны, экалагічны праект, кірунак прыродаахоўнай дзейнасці і г.д.

** бераг Нёмана ў ваколіцах вёскі Стары Свержань і гэты валун, што нагадвае суперсучасны аўтамабіль, з вяртаннем цяпла абжываюць мясцовыя непаседы.*

Кветкі раю

## Ванна з першага ўкосу

Заварыць 500 грамаў сена ў 3 літрах кіпеню і паставіць на 15 мінут адстаяцца. Працадзіць і ўліць у ванну з вадой 38,5 градусаў С. Працягласць працэдуры ад 15 да 22 мінут. Па сваім уздзеянні на капіляры мозгу ванна з кветкавага сена найбольш эфектыўная. Цудоўны сродак супраць неўрозаў, раздражнёнасці. Цалкам няшкодны. Вяртае добры сон.

Яшчэ адна парада: для скошвання выбірайце грудкі, багатыя на лекавыя расліны (чабор, малачай, святаяннік, чырвоная канюшына, крываўнік, сунічнік ды інш.). Дзе б ні хадзілі, наглядайце такія мясціны і трымайце на выпадак скарыстання. *Уласная інфармацыя.*

SUMMARY

***The Belaya Vezha ("White Tower") section gives various information on ecological and other topics.***



* фрагмент гравюры Францыска Скарыны "Бог у раі" (першая кніга Біблії, 1519)

## Шэдэўры светабудовы

### Разбурэнне экасістэмаў супярэчыць вышэйшай мудрасці, а захаванне адвечных каштоўнасцяў на зямлі ёсць справай святой

*"Свет - гэта думка, пертвораная ў матэрыю. Чым больш мы паглыбляемся ў таямніцу свету, тым больш нас зачароўвае яго містэрыя, дзівосная логіка, — піша ў сваёй папулярнай кнізе "Шэсць праўдаў веры" польскі тэолаг Эдвард Станек. "Бог стварыў Зямлю для жыцця", — як бы працягвае казанне, нагадваючы біблейскую ісціну, другі аўтар; ён жа робіць акцэнт на тым, што планы стварыцеля фантастычныя, а ягоныя творы - цуд бездакорнага ўвасаблення, велічы й сілы.*

### Мудрасць, якая прыняла матэрыяльныя формы

Нагадаем некалькі канкрэтных прыкладаў. Былі праведзены каштоўныя даследванні над так званай дзіркай азону. Узгадваў пра гэта нават Ян Павел II. Аказваецца, жыццё на зямлі мае цалкам цяплічныя ўмовы. Стварыцель распасцёр нібыта ў атмасферы своеасаблівы плашч, які выконвае ролю даху ў цяпліцы. Гэты плашч складаецца з некалькіх слаёў розных газаў. Вялікую ролю ўім адыгрывае слой азону, а таксама вокіс азоту. Роля слою азону заключаецца ў тым, што ён затрымлівае шкоднае выпраменьванне. Апошнім часам адкрыта, што колькасць азону ўсё змяншаецца, і ў гэтым "даху" ўтвараецца дзірка, а праз яе на зямлю трапляе вельмі шкоднае выпраменьванне, у выніку чаго расце колькасць хворых на рак скуры. Чым мы знішчаем гэты "дах" нашае цяпліцы? Забруджваннем паветра, звышгукавымі самалётамі і касмічнымі ракетамі. Можа стацца, што мы настолькі прадзіравім "дах" нашае зямлі, што ў рэшце рэшт не здолеем і залатаць. Мы самі на сябе наклікаем пагібель. Вось адна невялікая дэталь нашае зямной рэальнасці, якая паказвае, наколькі мэтазгодна і мудра сканструяваны свет. Хто б мог дапусціць, што азон, які так рэдка трапляе на Зямлю, адыгрывае гэткую важную ролю для ўсяго нашага жыцця? Падобных прыкладаў можна было б прывесці шмат.

Яшчэ больш уражваюць з'явы жывой прыроды. Канкрэтныя прыклады. Здавён праводзяцца даследванні над саранчой. Аказваецца, што хмары гэтага шкодніка за некалькі гадзінаў здольныя знішчыць квадратныя кіламетры лесу альбо нейкія другія плантацыі. Калі саранчу змясціць у спецыяльны прыбор, ён пакажа нам, што саранча – найлепшы лётчык у свеце. Штосьці накшталт аўтаматычнага пілота. Яго майстэрства заснавана на тым, што жамяра лётае ў густой масе. Іхнія крылы не рухаюцца, і, нягледзячы на тое, што іх лётае вельмі шмат, яны ніколі адзін за другі не чапляюцца. Ніводзін самалёт, збудаваны людзьмі, гэтак дакладна не сканструяваны. Саранча рэагуе на святло, на кожны подых ветру, на кожнае наблiжэнне суседа, і яе палёт бяспечны. Мільёны жамяры лётаюць у адной хмары і не сутыкаюцца паміж сабой. Паўстае пытанне: які канструктар надзяліў жамяру гэткімі дакладнымі вымяральнымі прыборамі?

Яшчэ прыклад. Часам нас кусаюць камары, мы ведаем іхнія балючыя ўкусы. Аказваецца, некаторыя іх віды здольныя прабіць скуру вала. Медыцына да гэтага часу не можа сканструяваць гэткай тонкай і моцнай іголкі, як іголка камара. Хто яе запраграмаваў, сканструяваў? Мэтазгоднасць свету ўражвае. Нас часам раздражняюць многія элементы створанага свету, але гэта толькі доказ таго, што мы не ведаем мэтазгоднасці ўсяго, што Бог стварыў. Усё ў свеце мэтазгодна.

Калісьці, падчас вялікіх рэформаў у Егіпце, былі пабудаваны аэрадром на тым месцы, дзе раней гняздзіліся птушкі. Праз колькі гадоў аказалася, што аэрадром нельга больш выкарыстоўваць, бо ў зямлі развялося столькі грызуноў, што яны пашкодзілі ўзлётныя палосы. Птушкі, якія гняздзіліся да будаўніцтва аэрадрома на гэтым месцы, трымалі раўнавагу ў асяроддзі і не дапускалі вялікага размнажэння грызуноў. Калі ж птушкі былі знішчаны, раўнавага парушылася. Гэткім чынам умяшанне чалавека прынесла шкоду.

Калі гаворым аб Божай мудрасці, то павінны перадусім бачыць тую незвычайную логіку, якая існуе ў створаным ім свеце. Кожны, хто ўважліва назірае за светам і яго законамі, можа пазнаць таямніцу мудрасці Стварыцеля.

Якія ж вынікі таго, што мы адкрыем для сябе мудрасць Бога? Першы з іх – давер. Ступень жа даверу залежыць ад ступені мудрасці таго, каму мы давяраем. Мудры – гэта той, хто ў любой сітуацыі, самай цяжкай, зможа знайсці выйсце. Для Бога ж няма нічога немагчымага. Ён з кожнай сітуацыі знойдзе выйсце. Давяраю Богу, бо Ён – сама мудрасць. Мая мудрасць трымаецца на даверы да Яго спрадвечнай мудрасці. Мудры ж той, хто давярае мудрэйшаму за сябе.

Другі вынік. У Божай мудрасці можна ўдзельнічаць. Існуюць два дары Духа Святога, прызначаныя для чалавека: дар розуму і дар мудрасці. Першы дазваляе чалавеку ўваходзіць у таямніцу жыцця і таямніцу свету. Той, хто валодае дарам розуму, пачынае разумець рэчаіснасць, якая яго атачае, і сваё ўласнае жыццё. Дар мудрасці тым часам дае магчымасць далучэння да гэтай мудрай і мэтазгоднай дзейнасці Бога, дазваляе супрацоўнічаць з Богам. Мудры чалавек — той, які ўдзельнічае ў мудрасці самога Бога і ў кожнай сітуацыі здольны знайсці правільнае рашэнне.

***Паводле публікацыі:*** *Эдвард Станек. Шэсць праўдаў веры. Пераклад з польскай. "Наша вера", 1, 1995.*



* *кволы матылёк быццам накінуў на сябе застрашальную маску, з якой пазірае на нас леў або тыгр...*

*Фота: Вільгельм Дубіловіч*

### Калі б Зямля была маруднейшая...

Месяц быў створаны дзеля таго, каб свяціць уначы, але жыццё на месяцы немагчымае. Касманаўты пацвердзілі гэта.

Зямля аднесеная ад сонца на разлегласць у 93 мільёны міляў, што й дазваляе ахаваць людзей ад апёкаў, гэтак жа як і ад замярзання.

Зямля важыць 6 септыльёнаў, 570 квантыльёнаў тон і абягае вакол сваёй восі з абсалютнай дакладнасцю кожныя 24 гадзіны. Калі б Зямля была маруднейшая і рабіла гэта не за суткі, а за месяц, сонца спальвала б нас на працягу дня, а ўначы мы гінулі б на марозе. Задума стварыцеля была дасканалаю.

Месяц уплывае на марскія прылівы й адлівы і знаходзіцца за 240000 міляў ад Зямлі. Калі б гэтая разлеглясць была роўная 2400-м мілям, Зямля двойчы на дзень аказалася б затопленай у часе прыліву. План стварыцеля быў дакладны.

Супрацьрадыяцыйны пасак у верхніх пластах атмасферы фільтруе шкодныя для чалавечага арганізма сонечныя праменні.

Зямля штогод робіць поўны аббег вакол сонца за 365 дзён.

Гэта толькі некалькі доказаў таго, што задума стварыцеля паўстае перад намі праз ягоныя шэдэўры. Светабудова, сусвет змяшчаюць тысячы падобных прыкладаў. І гэта цудоўна, што Бог стварыў чалавека й клапоціцца пра яго. Мы, людзі, маем выдатную магчымасць бачыць гэтыя цуды, захапляцца Божаю мудрасцю і абавязаны берагчы створаныя каштоўнасці.

***Паводле выдання:*** *Адвечна важнае. Сцiслыя артыкулы. Пераклад з ангельскай.*


SUMMARY

***The secrets of eternity are the themes of this new section. The more we try to solve the riddles of the universe, the more we are fascinated by its mysteries, astounding logic and expediency.***
***Above - detail of "God in Heaven" from the Bible, an engraving by Francishak Skaryna, the first Belarusian printer, 1519.***



БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання пяты, 1999
* пасведчанне аб рэгістрацыіі №125 ад 27.06.96
* наклад 3500 асобнікаў
* пры перадруку спасылка на газету абавязковая

Афармленне, макет: *Валерый Дранчук*
Карэктура, вёрстка: *Уладзя Ляская*
Summary: *Марк Бэнс, Аляксандра Годзіна*

Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл. 236-50-76, факс 220-23-53
Аўтары маюць поўнае права называць рэчы сваімі імёнамі, гаварыць адкрытым тэкстам, але нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.
Газета надрукавана ў прыватнай друкарні "Мэджык" (Мінск, вул. В.Харужай, 13)
Падпісана ў друк 26.05.99 Замова № 754
Кошт свабодны. У шапіках "Саюздруку" 35.000 руб.

**"BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA" Belarusan Nature-Lowing Newspaper. Motto: With Lowe To Lap. Published at the iniciative of the Information Green Agency**

**"NERUSH-PRESS" Contact: 220088 Miensk Ivanauskaya st., 38-16, Phone (375 17) 236-50-76**